Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА



# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР

10 СЬНЕЖНЯ 1928 г.

№ 14 (57)

IV-ы год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР
МЕНСК—1928

Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР


10 СЬНЕЖНЯ 1928 г.

**№ 14 (57)**

IV-ты год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР

МЕНСК—1928

## 1. Палажэньне пра фонд грамадзкага харчаваньня пры Рабочай Сэкцыі Спажывецкай Капярацыі БССР „Белрабсэкцыі“.

§ 1. На падставе пастановы СНК БССР за 14 сакавіка 1928 г. па пытаньні грамадзкага харчаваньня (газэта „Савецкая Беларусь“ за 1928 г. № 93), каб узмоцніць фінансавую базу рабочай капярацыі БССР для разьвіцьця грамадзкага харчаваньня, пры Белрабсэкцыі ўтвараецца спэцыяльны грашовы фонд.

§ 2. Першапачатковы фонд устанаўляецца ў сто тысяч рублёў і складаецца з наступных сум:

а) з сумы, перададзенай Белрабсэкцыі Камітэтам дапамогі грамадзкаму харчаваньню пры Эканамічнай Нарадзе БССР, як астача ад ліквідацыі был. Беларускага Паявога Т-ва Грамадзкага Харчаваньня „Белнархач“ . . . . . . . . . 32.500 р.

б) з уносаў цэнтральных рабочых капэратываў і гарадзкіх спажывецкіх таварystваў, якія мелі ў 1926-27 годзе прыбытак . . . . . . . . . . 15.000 р.

в) з адлічэньняў ад фондаў палепшаньня быту рабочых і служачых . . . . . . . . . 26.500 р.

г) з бяспроцантавай пазычкі з мясцовых бюджэтаў . 26.000 р.

100.000 р.

§ 3. Паказаныя ў п. „б“ § 2 уносы цэнтральных рабочых капэратываў і гарадзкіх спажывецкіх таварystваў аддаюцца ў Белрабсэкцыю для разьмеркаваньня апошняю.

§ 4. Фонд павялічваецца:

а) штогадовымі адлічэньнямі ад прыбыткаў цэнтральных рабочых капэратываў і гарадзкіх спажывецкіх таварystваў паводле пастаноў іх сходаў упаўнаважаных;

б) асыгнаваньнямі акруговых бюджэтаў;

в) процантамі на капіталы фонду і з іншых паступленьняў.

§ 5. Фонд прызначаецца толькі для разьвіцьця грамадзкага харчаваньня цэнтральнымі рабочымі капэратывамі і гарадзкімі спажывецкімі таварystвамі.

§ 6. Пазычкі з фонду выдаюцца на мэханізацыю працы сталовак, на набыцьцё абсталяваньня і ўнутранай абстаноўкі.

Пазычкі выдаюцца Белрабсэкцыяю на тэрмін ад аднаго да трох гадоў з 6 проц. гадавых. Выдачы кожны раз зацьвярджае Камітэт дапамогі грамадзкаму харчаваньню пры Эканамічнай Нарадзе БССР. З арганізацыяю, што бярэ пазычку, Белрабсэкцыя робіць дагавор, у які ўносіць мэтавае прызначэньне пазычкі, умовы карыстаньня ёю, тэрміны і гарантыі яе звароту.

§ 7. Беззваротныя пазычкі з фонду выдаюцца паводле плянаў і каштарысаў Белрабсэкцыі, зацьверджаных Камітэтам дапамогі грамадзкаму харчаваньню, на наступныя патрэбы:

а) на арганізацыю курсаў перападрыхтоўкі працаўнікоў грамадзкага харчаваньня і на ўтрыманьне стыпэндыятаў, якія камандыруюцца Белрабсэкцыяю на курсы і ў спэцыяльныя навучальныя ўстановы;

б) на правядзеньне агульных і індывідуальных экскурсій працаўнікоў грамадзкага харчаваньня на паказальныя прадпрыемствы грамадзкага харчаваньня ў іншыя мясцы СССР і за межы;

в) на выдаткі, зьвязаныя з працаю Навукова-Харчовага Савету;

г) на выданьне навуковай і практычнай літаратуры і падручнікаў па розных галінах грамадзкага харчаваньня;

д) на прэм'яваньне навуковых дасягненьняў, праектаў, вынаходак і ўдасканаленьняў у справе грамадзкага харчаваньня.

§ 8. Гатоўка фонду захоўваецца ва Ўсекабанку на асобным бягучым рахунку Белрабсэкцыі.

§ 9. Падлік фонду і адказнасьць за яго выдаткаваньне ў адпаведнасьці з гэтым палажэньнем ускладаецца на Прэзыдыум Белрабсэкцыі.

§ 10. Фонд ліквідуецца пастановаю Эканамічнай Нарады пры СНК БССР, якая ўстанаўляе парадак яго ліквідацыі і скарыстаньне непатрачанай часткі фонду.

Вык. аб. Старшыні Эканамічнай Нарады
пры СНК БССР *С. Карп.*

Нам. Кіраўніка Спраў Савету Народных
Камісараў і Эканамічнай Нарады БССР *В. Крывіцкі.*

1 кастрычніка 1928 г.
г. Менск.

---

## 2. Палажэньне аб асобным Упаўнаважаным Эканамічнай Нарады пры СНК БССР для загатовак дроў.

1. Каб сваечасова задавольваць патрэбы прамысловасьці, транспарту і насельніцтва ў дровах на апал і каб ухіліцца цяжкасьцяй, якія могуць узьнікнуць ад несваечасовага і нездавальняючага выкананьня загатовак дроў, Эканамічная Нарада пры СНК БССР назначае свайго асобнага ўпаўнаважанага для загатовак дроў і яго намесьніка, на якіх ускладаецца адказнасьць за правядзеньне загатовак дроў.

2. На асобнага Ўпаўнаважанага Эканамічнай Нарады пры СНК БССР для загатовак дроў ускладаецца:

а) кіраваньне і ўзгадненьне апярацый дзяржаўных і каперацыйных арганізацый па загатоўцы дроў;

б) вырашэньне спрэчак паміж паказанымі вышэй арганізацыямі;

в) ужыцьце захадаў да зьнішчэньня канкурэнцыі ў найманьні рабочай сілы паміж арганізацыямі, што загатаўляюць дровы;

г) нагляд за адпаведнасьцю работы ўстаноў, што рэгулююць рынак працы, запатрабаваньням правільнага ходу загатовак дроў і вырашэньне ўсіх спрэчных пытаньняў, якія ўзьнікаюць паміж названымі ўстановамі і загатоўчымі арганізацыямі;

д) ужыцьце захадаў да забясьпечаньня перавозкі дроў патрэбным рухавым складам, а таксама да зьнішчэньня перашкод па завозу ў месца загатоўкі дроў патрэбнага харчу і фуражу;

е) нагляд за сваечасовым фінансаваньнем загатовак дроў і дапамога ў забясьпечаньні іх патрэбнымі крэдытамі;

ж) нагляд за выкананьнем усімі ўстановамі і прадпрыемствамі пастаноў ураду аб загатоўках дроў.

3. Асобны ўпаўнаважаны для загатовак дроў, каб ажыцьцяўляць ускладзеныя на яго задачы, дзейнічае ад імя Эканамічнай Нарады пры СНК БССР і мае права, у межах кампэтэнцыі Эканамічнай Нарады пры СНК БССР:

а) калі вырашэньне справы ня можа быць адкладзена, вырашаць пад сваю адказнасьць, з дакладваньнем пасьля гэтага Эканамічнай Нарадзе пры СНК БССР, пытаньні, якія тычацца загатовак дроў, і павінны вырашацца Эканамічнаю Нарадаю пры СНК БССР у звычайным парадку;

б) прапанаваць усім установам і арганізацыям зьнішчаць у тэрміновым парадку недахопы ў галіне загатовак і дастаўкі дроў і патрабаваць прыцягненьня да дысцыплінарнай і крымінальнай адказнасьці асоб, якія дапусьцілі гэтыя недахопы;

в) прапанаваць усім установам і арганізацыям выконваць мерапрыемствы, накіраваныя на ўзмацненьне загатовак дроў;

г) спыняць немэтазгодныя загады арганізацый, што загатаўляюць дровы;

д) пераглядаць і, па згодзе з належнымі ведамствамі, зьмяняць праграмы загатовак і дастаўкі дроў паасобных ведамстваў і ўстаноў;

е) устанаўляць, па згодзе з НК РСІ, парадак і формы паданьня адпаведнымі ўстановамі і арганізацыямі зьвестак, патрэбных асобнаму ўпаўнаважанаму Эканамічнай Нарады пры СНК для загатовак дроў, у паасобку, зьвестак, патрэбных для зборнага падліку ходу загатовак дроў у паасобных акругах і ў асноўных дровазагатоўчых арганізацыях;

ж) склікаць міжведамственыя нарады з прадстаўнікоў зацікаўленых устаноў і арганізацый;

і) арганізоўваць інспэктарскія абсьледваньні вядзеньня загатовак дроў, скарыстоўваючы па згодзе для гэтага апараты Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі, Народнага Камісарыяту Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі, Народнага Камісарыяту Гандлю і Народнага Камісарыяту Земляробства.

4. Асобны ўпаўнаважаны Эканамічнай Нарады пры СНК БССР для загатовак дроў павінен не радзей аднаго разу ў тры месяцы падаваць у Эканамічную Нараду пры СНК БССР даклады аб ходзе і становішчы загатовак дроў.

5. Асобны ўпаўнаважаны Эканамічнай Нарады пры СНК БССР для загатовак дроў для свае тэхнічнай работы карыстаецца тэхнічным апаратам Лесбелу.

Старшыня Эканамічнай Нарады пры
СНК БССР *М. Карклін.*

Нам. Кіраўніка Спраў СНК і Эканамічнай
Нарады БССР *В. Крывіцкі.*

15 лістапада 1928 г.
г. Менск.

---

## 3. Абежнік Народнага Камісарыяту Фінансаў і Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

**пра вызваленьне ад гэрбавага збору дакумэнтаў аб дазволе рэлігійных працэсіяў.**

*Усім раённым выканаўчым камітэтам і сельскім саветам.*

Паводле § 48 Пераліку выняткаў з гэрбавага статуту за 14 верасьня 1927 г. усе пісьмовыя заявы, якія падаюцца ў раённыя выканаўчыя камітэты і сельскія саветы, і дакумэнты, што выдаюцца, вызваляюцца ад гэрбавага збору апроч: а) дакумэнтаў, якія тычацца гандлёвых і прамысловых прадпрыемстваў, і б) просьбаў аб выдачы выпісаў з кніг актаў грамадзянскага стану і паказаных выпісаў. Апошнія дакумэнты аплачваюцца ўстаноўленым гэрбавым зборам.

Паказаная льгота па гэрбавым зборы пашыраецца на асоб, якія жывуць у гарадох, але зварочваюцца ў раённыя выканаўчыя камітэты ці сельскія саветы, а таксама і на тыя раённыя выканаўчыя камітэты і сельскія саветы, у раён якіх уваходзяць ня толькі сельскія мясцовасьці, але і гарадзкія паселішчы.

Між тым, з зьвестак, якія ёсьць у Народным Камісарыяце Фінансаў, відаць, што бываюць выпадкі, калі раённыя выканаўчыя камітэты і сельскія саветы бяруць гэрбавы збор з сельскіх царкоўных брацтваў пры разглядзе просьбаў іх аб дазволе працэсіяў, што супярэчыць паказанаму вышэй § 48 Пераліку выняткаў з гэрбавага збору.

Таму Народны Камісарыят Фінансаў і Народны Камісарыят Унутраных Спраў прапануюць раённым выканаўчым камітэтам і сельскім саветам просьбы царкоўных брацтваў аб дазволе працэсіяў разглядаць без аплаты гэрбавым зборам.

Народны Камісар Фінансаў БССР *В. Мікуліч.*

Нам. Народнага Камісара Унутраных
Спраў БССР *Я. Кроль.*

3 лістапада 1928 г.
№ 3211—4

---

## 4. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР

**пра парадак выдачы пасьведчаньняў асобы.**

*(Выдадзена для разьвіцьця пастановы ЦВК і СНК БССР за 2 лютага 1928 г. „Пра пасьведчаньні асобы“ (З. З. БССР 1928 г., № 9, арт. 69).*

1. Дзяржаўныя органы, службовыя асобы, органы дамакіраўніцтваў і іншыя ня маюць права патрабаваць ад грамадзян, каб яны абавязкова паказвалі дакумэнты, якімі сьведчыцца асоба, апроч выпадкаў, калі даная асоба невядома паказаным органам, жадае ажыцьцявіць пры іх дапамозе альбо пасьведчыць тыя ці іншыя, зьвязаныя з яе асабістасьцю, маемасныя альбо палітычныя правы, напрыклад: калі яна атрымоўвае ад урадавых і судовых органаў дакумэнты і грошы, учыняе розныя дзеяньні ў натарыяльных органаў і г. д.

2. Калі грамадзяніну БССР трэба пасьведчыць сваю асобу перад органамі ўлады, то ён можа паказаць ім альбо асобнае пісанае пасьведчаньне асобы адзінай для ўсіх грамадзян БССР формы, альбо адзін з наступных дакумэнтаў:

а) актавы (альбо стары мэтрычны) выпіс аб нараджэньні ці шлюбе;

б) даведку дамакіраўніцтва альбо сельскага савету аб пражываньні (выпіс з дамовай кнігі альбо з падворнага сьпісу);

в) пасьведчаньне (альбо разьлікавую кніжку) з месца працы ці службы;

г) падлічальна-вайсковыя дакумэнты, якія выдаюцца падлічальнымі органамі ваеннапавінным грамадзянам і сьведчаць іх адносіны да вайсковай службы;

д) службовыя кніжкі чырвонаармейцаў (чырвонафлётцаў) альбо вайсковыя дакумэнты, якія выдаюцца органамі Народнага Камісарыяту Ваенных і Марскіх Спраў сярэдняму, старшаму і вышэйшаму начальніцкаму складу Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і Флёту і паказваюць адносіны ўласьнікаў да абавязковай вайсковай службы;

е) членскі білет прафэсіянальнага саюзу;

ж) вучнёўскія дакумэнты альбо дакумэнты аб сканчэньні курсу навучальнай установы;

з) членскі білет таварыства саматужнікаў;

і) пэнсійная кніжка, выданая інваліду працы або вайны.

3. Паказаная ў п. „б" арт. 2 гэтай інструкцыі даведка дамакіраўніцтва зьяўляецца дастатковым дакумэнтам для пасьведчаньня асобы толькі тады, калі ў ёй ёсьць спасылка на дакумэнт, па падставе якога быў зроблен запіс у дамовай кнізе.

4. У кожным з дакумэнтаў, якія падаюцца грамадзянамі для пасьведчаньня свае асобы, павінна быць абавязкова паказана прозьвішча, імя і імя па бацьку паказчыка і яго гады.

5. Для вайсковапавінных пасьведчаньне асобы не замяняе падлічальна-вайсковага дакумэнту, які патрабуецца законам.

6. Паданьне чужога дакумэнту, якім сьведчыцца асоба, альбо падрабленьне такога дакумэнту выклікаюць адказнасьць у кожным асобным выпадку паводле адпаведных артыкулаў Крымінальнага Кодэксу БССР.

7. Пасьведчаньні асобы, якія выдаюцца на падставе арт. 2 пастановы ЦВК і СНК БССР за 2-га лютага 1928 г. „Пра пасьведчаньні асобы" (З. З. БССР 1928 г., № 9, арт. 69), маюць адну агульную для ўсяе БССР форму і зьмяшчаюць у сабе наступныя графы:

1) прозьвішча, імя і імя па бацьку атрымальніка пасьведчаньня;

2) год, месяц, дзень і месца нараджэньня;

3) месца сталага жыцьця;

4) род заняткаў (асноўная прафэсія);

5) адносіны да абавязковай вайсковай службы;

6) сямейнае становішча;

6а) пералік непаўналетніх да 16 гадоў, унесеных у пасьведчаньне на падставе арт. 13;

7) на падставе якога дакумэнту выдадзена пасьведчаньне асобы;

8) якою ўстановаю выдадзена;

9) подпісь атрымальніка;

10) месца і час выдачы пасьведчаньня, подпіс адказнай асобы і пячатка органу, які выдае пасьведчаньне.

*Увага.* Калі атрымальнік хоча, то на пасьведчаньні асобы можа быць налеплена фатаграфічная картка, засьведчаная належным чынам.

8. Блянкі пасьведчаньняў асобы адзінай для грамадзян БССР формы загатаўляюцца НКУС на спэцыяльнай паперы з сеткавымі адзнакамі.

9. Пасьведчаньні асобы выдаюцца на неабмежаваны тэрмін.

10. Ніхто з грамадзян Рэспублікі ня можа прымушацца браць пасьведчаньне асобы, установы-ж, якія выдаюць гэткія, павінны ўжыць усе захады, каб як найхутчэй выдаваць пасьведчаньні асобы ўсім, хто жадае атрымаць іх, апроч грамадзян, пералічаных у арт. 11 гэтай інструкцыі.

11. Пасьведчаньне асобы мае права атрымаць кожны грамадзянін Рэспублікі, незалежна ад полу, расы, нацыянальнасьці і пахаджэньня, апроч: а) непаўналетніх да 16 гадоў; б) душэўна-хворых; в) вайскоўцаў Чырвонай Арміі і Флёту і г) маракоў гандлёвага флёту СССР.

*Увага.* Чужаземцам устаноўленыя для іх пасьведчаньні на пражываньне выдаюцца паводле „Палажэньня аб пасьведчаньнях на пражываньне для чужаземцаў“.

12. Непаўналетнія да 16 г. запісваюцца ў пасьведчаньне тае асобы альбо ў сьпісы тае ўстановы, на ўтрыманьні якой яны знаходзяцца.

13. Як вынятак з агульнага правіла (арт. 12), непаўналетнім ад 12 да 16 г. можа быць выдадзена самастойнае пасьведчаньне асобы тады:

а) калі аб гэтым просяць бацькі, альбо асобы, што замяняюць іх;

б) калі аб гэтым просіць сам непаўналетні, у якога няма бацькоў альбо асоб, што замяняюць іх.

14. Непаўналетнія, якія маюць 16 гадоў, каб атрымаць пасьведчаньне асобы, згоды сваіх бацькоў альбо апякуноў не патрабуюць.

15. Асобы, прызнаныя ва ўстаноўленым парадку душэўна-хворымі, могуць атрымаць пасьведчаньне асобы толькі па просьбе асобы ці ўстановы, пад апекаю якой яны знаходзяцца.

*Увага.* Асоба, пад апекаю якой знаходзіцца душэўна-хворая асоба, мае права патрабаваць запісаньне яе і зьвестак аб ёй у сваё пасьведчаньне асобы.

16. Пасьведчаньні асобы выдаюцца грамадзянам у месцы іх пражываньня: у гарадох, сьпіс якіх абвешчан у пастанове ЦВК і СНК за 3 ліпеня 1925 г. (З. З. БССР 1925 г., № 31, арт. 293),—органамі міліцыі, а ў сельскіх мясцовасьцях і мястэчках—сельскімі і местачковымі саветамі.

*Увага 1.* Апроч памянёных, ніякія іншыя органы ня маюць права выдаваць пасьведчаньні асобы.

*Увага 2.* Месцам пражываньня, у якім выдаюцца пасьведчаньні асобы, трэба лічыць, сталае месца пражываньня атрымальніка, а таксама і яго часовае пражываньне ў данай мясцовасьці, дзе атрымальнік мае працу, промысел, службу альбо дзе ён вучыцца.

17. Пасьведчаньні асобы выдаюцца на падставе аднаго з дакумэнтаў, пералічаных у арт. 2, прычым органы, якія выдаюць гэтыя пасьведчаньні, ня маюць права патрабаваць падачы яшчэ якіх-небудзь іншых дакумэнтаў, апроч пералічаных.

*Увага 1.* Замужным жанчынам актавы (мэтрычны) выпіс аб нараджэньні ня можа быць падставаю для атрыманьня пасьведчаньня асобы, бо ў такім паказана дашлюбнае (дзявочае) прозьвішча. У такіх выпадках пасьведчаньне асобы трэба выдаваць на падставе выпісу з актавых кніг аб шлюбе, альбо на падставе іншага з дакумэнтаў, пералічаных у п. п. „б“—„і“ арт. 2 гэтай інструкцыі, якія дакумэнты выдаюцца з паказаньнем прозьвішча, прысвоенага грамадзянам да данага моманту.

*Увага 2.* Грамадзяне Саюзу ССР, якія прыяжджаюць з-за граніцы і жадаюць атрымаць пасьведчаньне асобы, атрымоўваюць такое ў месцы выбранага пражываньня на падставе дакумэнтаў, атрыманых ад паўнамоцных прадстаўніцтваў або консульстваў СССР за граніцаю.

*Увага 3.* Даведкі аб пражываньні і аб знаходжаньні ў навучальнай установе пакідаюцца ў справах органу, які выдае пасьведчаньне асобы, усе-ж іншыя пералічаныя ў арт. 2 гэтай інструкцыі дакумэнты варочаюцца іх уласьнікам. Калі акалічнасьцямі справы трэба пакінуць у справах копію дакумэнту, арыгінал якога ня можа быць пакінуты, то копіі зьнімаюцца і засьвядчаюцца ўстановаю, якая выдае пасьведчаньне асобы, і пакідаюцца ў яго справах.

18. Калі падаюцца арыгіналы дакумэнтаў, то ніякіх копій у дадатак да іх не патрэбна.

19. Калі паданы грамадзянінам дакумэнт належыць не яму альбо выклікае грунтоўныя сумненьні аб яго правадзейнасьці ці законнасьці, то органы, якія павінны былі выдаць пасьведчаньне асобы, пасьведчаньня не выдаюць, а прыцягваюць падаўца да адказнасьці паводле арт. 6 гэтай інструкцыі.

20. Калі грамадзянін, які жадае атрымаць пасьведчаньне асобы, ня зможа падаць якога-небудзь з дакумэнтаў, паказаных у арт. 2, то міліцыя выдае яму часовую пісьмовую даведку на тэрмін, патрэбны для атрыманьня якога-небудзь з паказаных дакумэнтаў, але ня больш чым на 3 месяцы; калі-ж ёсьць важныя прычыны, то гэты тэрмін можа быць адкладзены яшчэ на 3 месяцы. Даведка, якая выдаецца міліцыяю, складаецца з слоў заяўніка і павінна мець у сабе зьвесткі аб імю, імю па бацьку, прозьвішчы і гадох заяўніка.

21. Калі грамадзянін ня можа атрымаць на працягу данага яму тэрміну (арт. 20) якога-небудзь з дакумэнтаў, якія могуць быць падставаю для выдачы пасьведчаньня асобы, то апошняе выдаецца адміністрацыйным аддзелам акруговага выканаўчага камітэту альбо начальнікам раённай міліцыі, пасьля ўжыцьця усіх патрэбных захадаў да высьвятленьня прозьвішча, імя, імя па бацьку, часу нараджэньня і сямейнага становішча заяўніка.

22 Даныя, патрэбныя для выдачы пасьведчаньня асобы, паводле арт. 21, высьвятляюцца праз органы міліцыі рознымі спосабамі: апытваньнем бліжэйшых сваякоў і асоб, якія добра ведаюць заяўніка, і мэдыцынскім аглядам, калі няма магчымасьці дакладна ўстанавіць гады заяўніка, прычым грамадзяне, якія сьведчаць асобу заяўніка, для

пасьведчаньня свае асобы павінны самі мець які-небудзь з дакумэнтаў, пералічанных у арт. 2.

23. Органы, упаўнаважаныя для выдачы пасьведчаньняў асобы грамадзянам Рэспублікі, павінны мець заўсёды запас блянкаў пасьведчаньняў, каб бесьперапынна задавольваць хадайніцтвы грамадзян аб выдачы пасьведчаньняў асобы, і павінны дакладна падлічаць: 1) выдадзеныя пасьведчаньні асобы і 2) выдадзеныя і папсаваныя блянкі пасьведчаньняў асобы.

24. Органы, якія выдаюць пасьведчаньні асобы, павінны наглядаць за тым, каб ня было ніякіх затрымак у выдачы. Калі будзе наглядацца масавая падача заяў, то пасьведчаньні павінны выдавацца з такім разрахункам, каб ня было некарыснага хаджэньня грамадзян за атрыманьнем іх. У такім выпадку аб парадку і часе выдачы пасьведчаньняў асобы, органы якія выдаюць іх, павінны абвяшчаць мясцоваму насельніцтву, вывешваючы ў адпаведных мясцох абвесткі.

25. Пасьведчаньні асобы выдаюцца наступным парадкам:

а) за атрыманьнем пасьведчаньняў асобы заяўнік зварочваецца да тэхнічнага працаўніка, які выдае пасьведчаньні асобы. Тэхнічны працаўнік разглядае паданыя яму дакумэнты і, калі асоба заяўніка і верагоднасьць зьвестак, якія павінны быць запісаны ў пасьведчаньне, пацьвярджаюцца адным з дакумэнтаў, выпісвае пасьведчаньне асобы. Калі-ж паданыя дакумэнты выклікаюць у працаўніка якія-небудзь сумненьні у іх праўдзейнасьці ці законнасьці, то дакумэнты перадаюцца ім на распараджэньне начальніка ўстановы;

б) пасьля гэтага працаўнік запаўняе блянк пасьведчаньня асобы, кіруючыся пры гэтым наступнымі правіламі:

у графе 1, апроч прозьвішча, можа быць паказана і назва атрымальніка пасьведчаньня асобы, калі ў яго няма пэўнага прозьвішча, альбо калі назва складае дадатковую да прозьвішча частку.

Асобы, якія знаходзяцца ў шлюбе, паказваюцца ў пасьведчаньнях асобы прозьвішчам, выбраным імі пры браньні шлюбу і ўнесеным у актавы запіс аб тым.

У графе 2 год, месяц і дзень нараджэньня грамадзян паказваецца наступным парадкам: для асоб, якія нарадзіліся ў 1906 годзе і раней, дата нараджэньня паказваецца па стараму і па новаму стылю, а для асоб, якія нарадзіліся ў 1907 годзе і пазьней, дата нараджэньня паказваецца толькі па новаму стылю праз прыбаўленьне 13 дзён да даты па стараму стылю. Месца нараджэньня паказваецца паводле даных дакумэнту аб нараджэньні альбо са слоў заяўніка.

Графа 3—„месца сталага прабываньня“—запаўняецца на падставе арт. 11 Грамадзянскага Кодэксу, паводле якога месцам пражываньня прызнаецца тое месца, дзе асоба з прычыны свае службы, сталых заняткаў альбо знаходжаньня яе маемасьці заўсёды альбо пераважна жыве; месцам пражываньня непаўналетніх альбо асоб, якія знаходзяцца пад апекаю, прызнаеццца месца пражываньня іх законных прадстаўнікоў—бацькоў або апякуноў.

Паказваючы ў графе 4 род заняткаў (асноўная прафэсія), трэба паказаць тую працу, якою асоба займаецца ў даны час, а калі яна лічыцца беспрацоўную, то яе праца да беспрацоўя.

Графа 5, у якой паказваюцца адносіны да абавязковай вайсковай службы, запаўняецца паводле даных пісьмовага пасьведчаньня, асабовай кніжкі (асабовай карткі), альбо падлічальна-вайсковага білету. Пры гэтым у паказанай графе пішацца, калі грамадзянін:

1) не прызываўся на абавязковую вайсковую службу—„дапрызыўнік, павінен прызывацца ў такім-та годзе“;

2) зусім вызвален ад праходжаньня вайсковай службы—„вызвален“ (падстава вызваленьня);

3) лічыцца на падліку вайсковапавінных і мае на руках асабовую картку альбо падлічальна-вайсковы білет—„лічыцца ў запасе РСЧА“, разрад запасу (калі ён паказан у падлічальным дакумэнце).

Графа 6 запаўняецца ў адпаведнасьці з тым ці іншым сямейным становішчам асобы, пры чым робяцца адзнакі: „знаходзіцца ў шлюбе“ і „не знаходзіцца ў шлюбе“.

*Увага 1.* Для вызначэньня сямейнага становішча ня варта ў пасьведчаньні асобы пісаць—нежанаты, дзяўчына, жанаты, удавец, разьведзены.

*Увага 2.* У пасьведчаньні асобы, якая знаходзіцца пад апекаю, у графе „сямейнае становішча“ робіцца адпаведная адзнака.

У графе 6-а—„пералік непаўналетніх і асоб, якія ўносяцца ў пасьведчаньне асобы (арт. арт. 12 і 15)“,—паказваецца:

1) прозьвішча, імя і імя па бацьку непаўналетняга альбо падапечнага;

2) яго гады і

3) сваяцтва альбо іншыя адносіны да атрымальніка пасьведчаньня.

Графы 4 і 6 пасьведчаньня асобы запаўняюцца на падставе адпаведных дакумэнтаў; калі-ж такіх дакумэнтаў няма, то выдача пасьведчаньня не затрымоўваецца, а гэтыя графы могуць быць запоўнены на падставе вуснай заявы асобы, якая атрымоўвае пасьведчаньне асобы, з адзнакаю, што запаўняюцца са слоў.

У графе 7 паказваецца назва дакумэнту, на падставе якога выдана пасьведчаньне асобы, адзначаючы № і дату выдачы яго.

У графе 8 паказваецца цалком назва ўстановы, якая выдала пасьведчаньне асобы.

У графе 10 паказваецца месца (горад, мястэчка і інш.) і час выдачы (дзень, месяц і год);

в) запоўніўшы блянк, тэхнічны працаўнік прыкладае да яго ўсе паданыя дакумэнты, якія зьяўляюцца падставаю для выдачы пасьведчаньня асобы, і ў такім выглядзе перадае на подпіс начальніка ўстановы;

г) падпісаны блянк пасьведчаньня асобы запісваецца тэхнічным працаўнікам у альфабэт выдадзеных пасьведчаньняў асобы і даведак (Дадатак 1).

Альфабэт ёсьць разьлінаваная паводле паказанай формы кніга стандартным фармаце 210×297 м.м., дзе кожнай літары вызначана сваё месца. Парадкавая нумарацыя запісаў выданых пасьведчаньняў асобы вядзецца ў межах кожнай літары, г. зн. на „А“ з № 1, на „Б“ з № 1 і г. д.

д) № пасьведчаньня асобы складаецца з чарговага № надрукаванага на блянку пасьведчаньня і дапісанага ад рукі (у назоўніку) чарговага № запісу пасьведчаньня ў альфабэт. На пасьведчаньні асобы, у час выдачы і ў прысутнасьці службовай асобы, якая выдае пасьведчаньне, атрымальнік расьпісваецца. Калі атрымальнік няпісьменны, то аб гэтым робіцца, пры выдачы пасьведчаньня, адпаведная адзнака;

е) пасьля зробленых запісаў пасьведчаньне асобы выдаецца на рукі атрымальніку пад яго расьпіску на пададзенай ім заяве аб выдачы пасьведчаньня асобы;

ж) усе дакумэнты, якія не аддаюцца назад, альбо копіі іх, разам складаюцца і на іх ставіцца парадкавы нумар, пад якім зроблен запіс

у альфабэце. Пасьля гэтага яны падкладваюцца ў парадку альфабэту і нумароў у адпаведныя справы;

з) перапіска аб пасьведчаньнях асобы нумаруецца па кантрольнай кнізе;

і) штодзень запісваюцца выдадзеныя блянкі пасьведчаньняў асобы ў кнізе падлічваньня блянкаў пасьведчаньняў асобы (Дадатак 2). У кнізе ставіцца дата запісу ў кнігу, колькасьць атрыманых блянкаў і №№, колькасьць папсаваных блянкаў і №№, час і № квітка зданых за блянкі грошай.

26. Пры выдачы пасьведчаньняў асобы з атрымальнікаў бярэцца сума, якая не перавышае сабекошту блянку.

*Увага.* Апроч паказанай у гэтым артыкуле платы, пасьведчаньні асобы ніякімі іншымі зборамі не абкладаюцца (гэрбавы збор і інш).

27. Далейшыя зьмены ў сямейным становішчы альбо ў асноўнай прафэсіі асобы могуць быць адзначаны ў пасьведчаньні асобы, паводле заявы ўласьніка пасьведчаньня, пацьверджанай дакумэнтамі, тымі органамі, якія выдалі пасьведчаньне асобы. Паказаныя адзнакі робяцца ў месцы пражываньня ўласьніка пасьведчаньня.

28. Замест згубленага пасьведчаньня асобы можа быць выдадзена новае паводле арт. 17 і наступных пасьля публікацыі аб скасаваньні згубленага пасьведчаньня асобы.

29. Старое альбо чым-небудзь папсаванае пасьведчаньне асобы можа быць заменена новым, пры гэтым абавязкова павінна падавацца старое альбо папсаванае пасьведчаньне. Іншыя дакумэнты ў такіх выпадках не падаюцца.

30. Пасьведчаньне асобы, якое асталося пасьля памёршага, падаецца дамакіраўніцтвам альбо адпаведным яму органам у месцы апошняга пражываньня памёршага ў міліцыю, якая, зрабіўшы адзнаку аб сьмерці асобы, паказанай у пасьведчаньні, адсылае дакумэнт у той орган кіраўніцтва, які выдаў яго.

31. Пасьведчаньні асобы, выдадзеныя грамадзянам папрызыўных гадоў, калі гэтыя грамадзяне ўзяты на абавязковую вайсковую службу, павінны ад іх забірацца ваеннымі камісарыятамі і адсылацца імі ў кіраўніцтва міліцыі ў месцы прызыву, дзе яны захоўваюцца да запатрабаваньня іх уласьнікамі.

У грамадзян, якія вайсковую службу праходзяць у тэрыторыяльных часьцях, пасьведчаньні асобы не забіраюцца.

У пасьведчаньне асобы грамадзян, няпрынятых на абавязковую вайсковую службу альбо зусім вызваленых ад адбываньня вайсковай службы, павінна быць зроблена адзнака аб вызваленьні, паказаўшы падставы (пастанову прыймовай альбо прызыўнай камісіі).

32. Грамадзяне, звольненыя з вайсковай абавязковай службы ў запас, патрабуюць з кіраўніцтва міліцыі ў месцы прызыву пасьведчаньне асобы, якое было забрана ў час прызыву і захоўвалася на працягу ўсяго часу знаходжаньня грамадзяніна на абавязковай вайсковай службе.

Зварочваючы грамадзяніну пасьведчаньне асобы, у пасьведчаньні робіцца адпаведная адзнака аб залічэньні яго ў запас, на падставе падлічальна-вайсковага дакумэнту.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных
Спраў БССР *Я. Кроль.*

12 кастрычніка 1928 г.

*Дадатак 1.*

Форма № 1.

## АЛЬФАБЭТ

выдадзеных пасьведчаньняў асобы і даведак ..........

..........

..........

..........

| Чарг. №№ | №№ блянкаў пасьведчаньняў асобы | Прозьвішча, імя і імя па бацьку асобы, якая атрымала дакумэнт | Час выдачы пасьведч. асобы | Час выдачы даведкі і на які тэрмін | | Калі і на які тэрмін даведка адкладзена | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | |
| | | | | | | | | А |
| | | | | | | | | Б |
| | | | | | | | | В |
| | | | | | | | | Г |

*Дадатак 2.*

Форма № 2.

## КНІГА

падлічваньня выдадзеных і папсаваных блянкаў пасьведчаньняў асобы

..........

..........

..........

| Дата запісу | Колькасьць атрыманых блянкаў | Патрачана | | Колькі асталося блянкаў | Час і № квітка аддадзеных за блянкі грошай | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Колькасьць выдадзен. блянкаў | Колькасьць папсаван. блянкаў | | | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| | | | | | | |
| | | | | | | |
| | | | | | | |
| | | | | | | |

## 5. Абежны ліст Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР

### пра плянавае ўцягненьне і скарыстоўваньне грамадзкасьці ў практычнай рабоце міліцыі.

*Начальнікам адміністрацыйных аддзелаў, начальнікам гарадзкіх аддзяленьняў і раённых міліцый.*

Паводле дырэктыў Савету Народных Камісараў па дакладу аб дзейнасьці міліцыі і пастановы Калегіі Народнага Камісарыяту Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі па абсьледваньні міліцыі, накірованых побач з іншымі мерапрыемствамі да адзінай мэты—разгортаваньня савецкай дэмакратыі на падставе ўцягненьня працоўных мас ў практычную работу, Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР паставіў сваёю задачаю зварочваць больш увагі на пытаньні масавай работы на мясцох па лініі яго органаў.

Аднак ніякія мерапрыемствы ня змогуць даць належнага эфэкту, калі ўцягненьне і скарыстоўваньне грамадзкасьці ня зьявіцца задачаю, якая вырашаецца не ад выпадку да выпадку, але ў штодзеннай Вашай рабоце.

На падставе гэтага, Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР лічыць патрэбным радзіць Вам правесьці ў бліжэйшы час наступныя мерапрыемствы:

1. Дабівацца ўцягненьня праз бюро сэкцый членаў адміністрацыйна-праўнай сэкцыі (камісіі) саветаў у выкананьне кантрольных заданьняў па апарату, у расьледваньне скарг на работнікаў апарату, у папярэднюю перапрацоўку праектаў абавязковых пастаноў, для удзелу ў прыйманьні асабовага складу, у праверку працоўнай дысцыпліны і іншых абавязкаў кантрольна-дапамагальнага характару.

2. Уважліва адносіцца да выкананьня прапаноў сэкцый, членаў саветаў і сэкцый, а таксама паасобных рабочых і сялян, абавязкова паведамляючы іх аб выкананьні альбо аб прычынах, якія не даюць магчымасьці выканаць іх.

3. Важнейшыя пытаньні Вашай работы, пляны і інш. абавязкова загадзя перапрацоўваць у сэкцыі савету.

4. Запрашаць на нарады прадстаўнікоў сэкцый, якія склікаюцца Вамі, і асабіста ўдзельнічаць на пасяджэньнях пленумаў сэкцый і іншых сходах і нарадах.

5. Арганізаваць пасьля ўзгадненьня з мясцовымі саветамі ў акруговых цэнтрах камісіі ў складзе начальніка (ці намесьніка) адміністрацыйнага аддзелу (старшыні) і двух членаў гарадзкога савету ў парадку чаргі для выкананьня функцый, зьвязаных з накладаньнем адміністрацыйных пакараньняў за парушэньне абавязковых пастаноў акруговых выканаўчых камітэтаў і гарадзкіх саветаў.

Нам. Народнага Камісара Унутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

18 кастрычніка 1928 г.

## 6. Абежнік Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### пра парадак зьмены імя непаўналетнім дзецям.

*Усім органам запісаў актаў грамадзянскага стану.*

Каб урэгуляваць пытаньне аб парадку зьмены імя непаўналетнім дзецям, Народны Камісарыят Унутраных Спраў і Народны Камісарыят Юстыцыі БССР паведамляюць для кіраваньня наступнае.

Паводле арт. 12 дадатку 1 да Кодэксу законаў аб шлюбе, сям'і і апецы і ўвагі да гэтага артыкулу, тое ці іншае імя нованароджанаму выбіраюць яго бацькі. Зьмяняць прозьвішча і імя мае права кожны паўналетні грамадзянін, непаўналетнія такога права ня маюць, а іх правы ў такіх выпадках перадаюцца бацькам (З. З. БССР 1925 г., № 9, арт. 81).

Перашкаджаць дамаганьням бацькоў аб зьмене імя іх дзяцей няма ніякіх падстаў, але пры зьмене імя дзяцей, якія маюць 14 гадоў, павінны быць выкананы ўсе патрабаваньні памянёнага закону за 21 лютага 1925 г., а як-раз: падпіска абодвых бацькоў аб згодзе паміж сабою на зьмену імя дзіцяці, апавяшчэньне ў афіцыйным органе друку за кошт просьбітаў аб зьмене імя і г. д.

Папраўкі запісаў імя дзяцей, якія яшчэ ня маюць 14 гадоў, робяцца ў кнігах запісаў актаў грамадзянскага стану паводле арт. 4 дадатку 1-га да Кодэксу законаў аб шлюбе, сям'і і апецы, а для дзяцей ад 14-ці гадоў паказаныя вышэй патрабаваньні выконваюцца праз акруговыя органы ЗАГС паводле пастановы ЦВК і СНК БССР за 21 лютага 1925 г. (З. З. БССР 1925 г., № 9, арт. 81).

Адмаўляць бацькам у зьмене імя іх дзіцяці трэба толькі тады, калі гэтаю зьменаю будуць закрануты інтарэсы трэціх асоб.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў
БССР *Я. Кроль.*

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі
БССР *Ст. Гохман.*

18 кастрычніка 1928 г.



---

## 7. Абежнік Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### пра ўзмацненьне змаганьня з хуліганствам на лініях чыгунак.

*Акруговым адміністрацыйным аддзелам, раённым выканаўчым камітэтам і сельскім саветам.*

З зьвестак, якія ёсьць у Народным Камісарыяце Ўнутраных Спраў, відаць, што за апошні час павялічыліся хуліганскія ўчынкі ў дачыненьні да чыгуначных агэнтаў. З гэтай прычыны былі выпадкі спазьненьня і спыненьня цягнікоў у дарозе праз зашрубоўваньня тармазаў.

Асабліва рэзка праяўляецца паказанае вышэй хуліганства на таварных цягнікох, дзе яно выяўляецца біцьцём сігнальных ліхтароў, адабраньнем у цягніковай прыслугі кажухоў і г. д. і нават спробамі скінуць кандуктароў з цягніку ў час ходу.

Усе захады, якія ўжываюцца чыгуначнаю адміністрацыяю супольна з органамі ТААДПК і аддзелам аховы, ня маюць посьпеху, бо ад мясцовага насельніцтва няма ніякага падтрыманьня.

НКУС і НКЮ лічаць, што на змаганьне з хуліганствам на лініях чыгунак сельскія саветы і органы міліцыі яшчэ ня досыць зварочвалі ўвагі, і тыя мерапрыемствы, якія былі вызначаны раней для змаганьня з гэтым злачынствам, некаторымі органамі не ажыцьцяўляліся.

Мясцовыя органы павінны ўжыць рашучыя захады да зьнішчэньня падобных зьявішч у будучым, для чаго трэба ажыцьцявіць наступныя мерапрыемствы:

1. Раённыя выканаўчыя камітэты і сельскія саветы на агульных сходах грамадзян, што зьбіраюцца на той ці іншы выпадак, павінны растлумачыць насельніцтву ўсю шкоду, якая робіцца чыгунцы хуліганскімі ўчынкамі паасобных злачынцаў, і заклікаць насельніцтва спыніць гэтыя зьявішчы і дапамагаць усім органам улады, паведамляючы аб усіх асобах, прыкмечаных у хуліганстве, у раённы выканаўчы камітэт, сельскі савет, міліцыю або сельскаму выканаўцу.

2. Сельскія саветы павінны ўзмацніць нагляд за асобамі, прыкмечанымі ў хуліганстве, паведамляючы аб кожным выпадку ў органы міліцыі.

3. Органы міліцыі павінны зараз-жа расьледаваць кожны падобны выпадах і ўсіх прыкмечаных у хуліганстве прыцягваць да адказнасьці паводле арт. 107 Крым. Код.

Калі вынікам гэтых хуліганскіх учынкаў зьяўляецца матар'яльная шкода дзяржаве, то для вінаватых павінна быць прадугледжана адказнасьць паводле арт. арт. 107 і 261 Крым. Код.

Адабраньне ў цягніковай прыслугі кажухоў трэба кваліфікаваць паводле арт. арт. 245 альбо 247 Крым. Код., у залежнасьці ад таго ці было гвалтоўнае дзеяньне, ці не.

Артыкулы паказаны паводле Крым. Кодэксу выданьня 1928 году.

Абежнік НКУС за 30 чэрвеня 1927 г. № 120 аб захадах для змаганьня з хуліганствам на лініях чыгунак, абвешчаны ў Бюлетэні СНК БССР за 1927 г., № 12, касуецца.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *Ст. Гохман.*

25 кастрычніка 1928 г.
№ 113.

---

## 8. Абежнік Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

### пра парадак наклейваньня гэрбавых марак пры выдачы актавых пасьведчаньняў на падставе вусных заяў.

*Усім органам запісаў актаў грамадзянскага стану.*

З прычыны непаразуменьняў, якія ўзьнікаюць на мясцох па пытаньні аб парадку наклейваньня гэрбавых марак пры выдачы актавых пасьведчаньняў на падставе вусных заяў (Пастанова НКУС і НКЮ БССР за 23 ліпеня 1928 г., № 5180/67, абвяшчаная ў Бюлетэні СНК БССР за 1928 г., № 10, стар. 25), Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР растлумачвае, што:

а) калі актавыя пасьведчаньні выдаюцца на падставе вусных заяў і гэрбавы збор павінен быць узяты, то гэрбавыя маркі на належную суму наклейваюцца на той сапраўдны запіс, што знаходзіцца ў актавай кнізе, з якой грамадзяніну даецца выпіс;

б) калі з дакумэнтаў, якія выдаюцца на падставе вусных заяў, або з асоб, якім выдаюцца дакумэнты таксама на падставе вусных заяў, гэрбавы збор не бярэцца, то органы ЗАГЄ павінны адзначыць у актавай кнізе, на тым самым сапраўдным запісе, прычыны, чаму гэрбавы збор не бярэцца.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

3 лістапада 1928 г.

---

Узгоднена з Народным Камісарыятам Фінансаў БССР (адносьнік № 1323—42 за 22 кастрычніка 1928 г.)

## 9. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

### пра парадак арганізацыі і дзейнасьці пасялковых вытворча-каперацыйных таварыстваў.

*Выдаецца на падставе арт. 15 пастановы Савету Народных Камісараў БССР за 18 чэрвеня 1928 г. „Пра пасялковыя вытворча-каперацыйныя таварыствы“ (З. З. БССР 1928 г., № 21, арт. 206).*

1. Для ўтварэньня пасялковага вытворча-каперацыйнага таварыства зацікаўленымі асобамі склікаецца арганізацыйная нарада, на якой абмяркоўваецца пытаньне аб арганізацыі таварыства, а таксама статут яго.

*Увага.* Статут пасялковага вытворча-каперацыйнага таварыства павінен адпавядаць тыпаваму статуту, зацьверджанаму Эканамічнаю Нарадаю пры СНК БССР 12 ліпеня 1928 году.

2. Прыняты статут падпісваецца ня менш чым 10 арганізатарамі і падаецца на рэгістрацыю ў раённы выканаўчы камітэт, пры гэтым трэба мець на ўвазе, што пасялковае вытворча-каперацыйнае таварыства павінна аб'яднаць ня менш 10 двароў; у тых пасёлках, дзе менш 10-ці двароў, т-ва можа арганізавацца пры ўмове, калі яно будзе аб'яднаць ня менш $^3/_4$ агульнага ліку двароў пасёлку і калі лік яго членаў будзе ня менш 10.

3. Для рэгістрацыі трэба падаць:

а) заяву з просьбаю аб рэгістрацыі статуту, якая павінна быць падпісана ня менш, чым 10 арганізатарамі, якія падпісалі і статут; у заяве можна паказаць асобу, якой даручаецца падаць заяву і атрымаць зарэгістраваны статут; подпісы на заяве павінны быць пасьведчаны сельскім саветам;

б) статут у двух экзэмплярах, падпісаны тымі самымі арганізатарамі, якія падпісалі заяву;

в) сьпіс асоб, якія далі згоду быць членамі пасялковага вытворча-каперацыйнага таварыства;

г) даведку сельскага савету аб тым, што ўсе арганізатары карыстаюцца выбарнымі правамі.

*Увага.* Заява аб рэгістрацыі статуту гэрбавым зборам не аплачваецца.

4. Статут пасялковага вытворча-каперацыйнага таварыства, пададзены ў раённы выканаўчы камітэт з захаваньнем паказаных вышэй умоў, раённы выканаўчы камітэт павінен на працягу месяца зарэгістраваць і адзін экзэмпляр статуту, з надпісам аб рэгістрацыі, выдаць пасялковаму таварыству, якое падало статут на рэгістрацыю.

5. Калі раённы выканаўчы камітэт адмовіцца зарэгістраваць статут, то скаргі аб гэтым на працягу месяца падаюцца праз раённы выканаўчы камітэт у акруговы зямельны аддзел, і адначасова аб гэтым паведамляецца акруговы саюз сельска-гаспадарчай капярацыі.

*Увага.* Пастанова акруговага зямельнага аддзелу зьяўляецца канчатковаю.

6. Дзейнасьць пасялковага вытворча-капэрацыйнага таварыства, як юрыдычнай асобы, пачынаецца з моманту рэгістрацыі яго статуту; у сваёй дзейнасьці таварыства павінна кіравацца, апроч статуту, палажэньнем аб пасялковых вытворча-каперацыйных таварыствах і наогул заканадаўствам аб сельска-гаспадарчай капярацыі, калі тыя, ці іншыя пытаньні не прадугледжаны палажэньнем або статутам.

7. Агульны нагляд за выкананьнем статуту і палажэньня аб пасялковых вытворча-каперацыйных таварыствах ажыцьцяўляецца зямельнымі органамі (акруговымі зямельнымі аддзеламі і раённымі зямельнымі часткамі), а ў адносінах арганізацыйна-каперацыйных—акруговымі саюзамі сельска-гаспадарчай капярацыі.

8. Каб ажыцьцяўляць нагляд за дзейнасьцю пасялковых вытворча-каперацыйных таварystваў, апошнія павінны на працягу тыдня падаваць копіі пастаноў агульных сходаў у раённыя зямельныя органы і адпаведнаму акруговаму саюзу сельска-гаспадарчай капярацыі, якому таксама перадаюцца і ўсе скаргі, што падаюцца на гэтыя пастановы.

9. Калі таварыствамі будуць прыняты такія пастановы, якія не адпавядаюць статуту або палажэньню аб іх, то раённыя зямельныя органы або акруговыя саюзы сельска-гаспадарчай капярацыі па належнасьці маюць права прыпыняць ажыцьцяўленьне іх, прычым пытаньні аб скасаваньні такіх пастаноў канчаткова вырашаюцца акруговымі зямельнымі аддзеламі на працягу тыдня пасьля атрыманьня іх ад раённых зямельных органаў або ад акруговых саюзаў сельска-гаспадарчай капярацыі.

10. Абслугоўваньне пасялковых вытворча-каперацыйных таварыстваў з вытворчага боку ўскладаецца на зямельныя органы (акруговыя і раённыя). Гэта абслугоўваньне павінна выяўляцца:

а) у дапамозе складаць праекты гаспадарчага будаўніцтва таварыства;

б) у дапамозе ажыцьцяўляць складзенныя праекты;

в) у інструктаваньні адпаведных спэцыялістаў па сельскай гаспадарцы;

г) у дапамозе арганізаваць машынныя зернаачышчальныя і злучныя пункты;

д) у дачы паказаньняў аб супольнай апрацоўцы зямлі;

е) у арганізацыі і правядзеньні мерапрыемстваў для пашырэньня сельска-гаспадарчых ведаў сярод членаў т-ва (лекцыі, гутаркі, нарады, забясьпечаньне патрэбнаю літаратураю і інш.);

ж) і наогул ў дачы паказаньняў і ў непасрэднай дапамозе ўсім мерапрыемствам, якія вядуць да калектыўнага скарыстаньня зямлі і ўсіх відаў сродкаў вытворчасьці.

11. Акруговыя саюзы сельска-гаспадарчай капярацыі праз свой інструктарскі апарат вядуць абслугоўваньне пасялковых вытворча-каперацыйных таварыстваў з боку арганізацыйна-каперацыйнага, у пасобку на іх ускладаецца:

а) папулярызацыя пасялковых таварыстваў;

б) дача патрэбных паказаньняў і дапамога ў пераходзе на статут пасялковага вытворча-каперацыйнага таварыства;

в) уцягненьне ўсіх членаў пасёлку ў склад пасялковага вытворча-каперацыйнага таварыства;

г) дапамога і нагляд за правільнаю пастаноўкаю рахункаводзтва і справаздачнасьці;

д) нагляд за правільным разьмеркаваньнем сродкаў;

е) інструктаваньне і дапамога кіруючым органам таварыства ў належнай пастаноўцы каперацыйнай справы паводле статуту;

ж) удзел у перавыбарных кампаніях, а таксама падрыхтоўка складу кіруючых органаў і адказных асоб;

з) дапамога збываць сельска-гаспадарчыя прадукты і забясьпечаньне сродкамі вытворчасьці;

і) дапамога ў атрыманьні сельска-гаспадарчага крэдыту і нагляд за правільным скарыстаньнем яго;

к) нагляд за правільным скарыстаньнем ільгот па сельска-гаспадарчым падатку;

л) наогул абслугоўваньне таварыстваў у каперацыйным кірунку, нагляд і кантроль за выкананьнем статуту.

12. Апроч асноўнага і запаснага капіталаў, парадак складаньня і выдаткаваньня якіх паказан у тыпавым статуце, таварыства мае права складаць спэцыяльныя капіталы; апошнія прызначаюцца на вядзеньне якіх-небудзь спэцыяльных апярацый і на папаўненьне страт, якія ад гэтага могуць быць; парадак утварэньня і выдаткаваньня гэтых капіталаў вызначаецца агульным сходам.

13. Да спэцыяльных апярацый належаць усе мерапрыемствы, паказаныя ў арт. 3 тыпавага статуту, і выкананьне якіх складае галоўныя задачы таварыства.

14. Спэцыяльныя капіталы могуць быць складзены:

а) з адлічэньняў ад чыстага прыбытку;

б) з дабравольных і абавязковых уносаў;

в) з пазычак спэцыяльнага прызначэньня;

г) інш. спосабамі на падставе пастановы агульнага сходу членаў т-ва.

15. Апроч льгот, паказаных у арт. 12 палажэньня аб пасялковых вытворча-каперацыйных таварыствах, якія павінны давацца ў першую чаргу, таварыствам могуць быць дадзены наступныя льготы з умоваю, што яны ажыцьцяўляюць паказаны ў тым-жа артыкуле мерапрыемствы:

а) вызваленьне ад сельска-гаспадарчага падатку вытворцаў грамадзкага карыстаньня, ухваленых зямельнымі ўстановамі;

б) вызваленьне ад сельска-гаспадарчага падатку пасеваў, сеяных траў на насеньне і плошчаў, занятых на палявых землях караньплодамі для корму ўласнае жывёлы.

Гэтыя льготы павінны быць прадугледжаны інструкцыяю пра ўжываньне сельска-гаспадарчага падатку.

*Увага.* Ажыцьцяўленьне мерапрыемстваў, паказаных у арт. 12 палажэньня аб пасялковых вытворча-каперацыйных т-вах, якія даюць права на атрыманьне льгот па сельска-гаспадарчым падатку, устанаўляецца адпаведнаю даведкаю раённага (ці вучастковага) агранома, а самыя льготы даюцца раённаю падатковаю камісіяю.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР *К. Масюкоў.*

5 лістапада 1928 г.

## 10. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра ўвядзеньне ў сілу на тэрыторыі БССР абавязковай пастановы Н.К.П. СССР за 3 верасьня 1928 г. № 506 „Правила безопасности по устройству и содержанию трамвайных вагонов“.**

Народны Камісарыят Працы БССР на падставе арт. 21 абавязковай пастановы НКП СССР за 3 верасьня 1928 г. № 506 „Правила безопасности по устройству и содержанию трамвайных вагонов“ („Изв. НКТ 1928 г. № 40/41) пастанаўляе ўвесьці паказаную вышэй абавязковую пастанову ў сілу на тэрыторыі БССР.

Народны Камісар Працы БССР *К. Бэнэк.*

Сакратар Народнага Камісарыяту
Працы БССР *А. Круглік.*

24 кастрычніка 1928 г.
№ 68.

---

## 11. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра ўвядзеньне ў сілу на тэрыторыі БССР абавязковай пастановы Н.К.Працы СССР за 20 верасьня 1928 г. № 550 „Правила устройства и содержания мелких (с числом рабочих не свыше 10 человек) и кустарных кожевенных предприятий и складов кожевенного сырья“.**

Народны Камісарыят Працы БССР на падставе арт. 45 абавязковай пастановы НКПрацы СССР за 20 верасьня 1928 г. № 550 „Правила устройства и содержания мелких (с числом рабочих не свыше 10 человек) и кустарных кожевенных предприятий и складов кожевенного сырья“ („Изв. НКТруда“ 1928 г. № 40/41) пастанаўляе ўвесьці паказаную вышэй абавязковую пастанову ў сілу на тэрыторыі БССР.

Народны Камісар Працы БССР *К. Бэнэк.*

Сакратар Народнага Камісарыяту
Працы БССР *А. Круглік.*

25 кастрычніка 1928 г.
№ 69.

---

## 12. Абежнік Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

**пра прапрацоўку пастаноў VI Кангрэсу Камінтэрну.**

*Усім вышэйшым школам, рабфакам, тэхнікумам, савецкім партыйным школам і раённым інспэктаром народнай асьветы.*

Улічваючы асабліва важнае значэньне пастаноў VI Кангрэсу Камінтэрну, Народны Камісарыят Асьветы БССР прапануе:

1. Вышэйшым школам, рабфакам і тэхнікумам зьвярнуць увагу на прапрацоўку пастаноў VI Кангрэсу Камінтэрну і праз утварэньне спэцыяльных для гэтага гурткоў і ўвязваючы з адпаведнымі дысцыплінамі грамадазнаўчага цыклю.

2. Савецка-партыйным школам прапрацоўку пастаноў VI Кангрэсу Камінтэрну ўвязаць з выкладаньнем дысцыплін грамадазнаўчага цыклю, апроч таго, вызначыць ня менш 12 гадзін на спэцыяльную прапрацоўку гэтага пытаньня.

3. У школах палітграматы прапрацоўваць пастановы VI Кангрэсу Камінтэрну у гуртках і апроч таго правесьці спэцыяльныя гутаркі (ня менш 2-х) аб праграме Камінтэрну.

Нам. Народнага Камісара Асьветы
БССР *П. Валасевіч.*

Сакратар Народнага Камісарыяту
Асьветы БССР *Ю. Савіч.*

30 кастрычніка 1928 г.
№ 2.

---

## 13. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

### пра ўстанаўленьне дадатковых загатоўчых цэн на ільняное валакно на сэзон 1928-29 г.

У дадатак да пастановы № 52 за 20 верасьня 1928 г. „Пра ўстанаўленьне загатоўчых цэн на ільняное валакно на сэзон 1928—29 г." (Бюлетэнь СНК БССР 1928 г., № 12 (55) і на падставе пастановы Н. К. Гандлю СССР за 2 кастрычніка 1928 г. (пр. № 100, п. IV) Народны Камісарыят Гандлю БССР пастанаўляе устанавіць на тэрыторыі БССР наступныя загатоўчыя цэны на ільняное валакно у кап. за кгр.

Лён паўтропан. 1 жмені (сланец)

| Гатунак | ср. № | Цана |
|---|---|---|
| ВФ | 17 | 65 |
| Ф | 15 | 60 |
| О | 13 | 53 |
| 1 | 11 | 48 |
| 2 | 9 | 41 |
| 3 | 7 | 35 |
| 4 | 5 | 26 |
| БР | 3 | 19 |

Лён-мачанец сырэц III гр.

| Гатунак | ср. № | Цана |
|---|---|---|
| 0 | 14 | 36 |
| 1 | 12 | 30 |
| 2 | 10 | 25 |
| 3 | 8 | 19 |
| 4 | 6 | 13 |

Вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 141 Крымін. Кодэксу БССР.

Нам. Народнага Камісара Гандлю
БССР *М. Абрамсон.*

Сакратар Народнага Камісарыяту
Гандлю БССР *К. Верамейчык.*

25 кастрычніка 1928 г.
№ 3.

## 14. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

**пра вызваленьне ад абавязковай пазабіржавой рэгістрацыі паводле пастановы СПА за 30 сьнежня 1927 г. дагавораў камісіі, складзеных дзяржаўнымі прадпрыемствамі і каперацыйнымі арганізацыямі з імпартнымі арганізацыямі на куплю апошнімі заграніцаю рэчаў абсталяваньня і сырцу.**

На падстве ўвагі да арт. 2 пастановы Савету Працы і Абароны за 6/VIII-27 г. (З. З. СССР 1928 г., № 47, арт. 484 і абежніку Народнага Камісарыяту Гандлю СССР за 5/XI-1928 г. № 3ц/126, Народны Камісарыят Гандлю БССР пастанаўляе:

1. Вызваліць ад абавязковай пазабіржавой рэгістрацыі паводле пастановы СПА за 30/XII-1927 г. (З. З. СССР 1928 г., арт. 40) дагаворы камісіі, складзеныя дзяржаўнымі прадпрыемствамі і каперацыйнымі арганізацыямі з імпартнымі арганізацыямі на куплю апошнімі заграніцаю рэчаў абсталяваньня і сырцу.

2. Гэтая пастанова ўваходзіць у сілу з моманту апублікаваньня.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР *М. Абрамсон.*

Сакратар Народнага Камісарыяту Гандлю БССР *К. Верамейчык.*

20 лістапада 1928 г.
№ 6.

---

## 15. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

**пра гранічныя набаўкі на аконнае шкло, якое прадаецца гуртам, паўгуртам і ў раздроб дзяржаўнымі і каперацыйнымі арганізацыямі.**

На падставе п. п. „м“ і „о“ арт. 4 Часовага Палажэньня аб Народным Камісарыяце Гандлю БССР (З. З. БССР 1924 г., № 25-26) і для скасаваньня свае пастановы за 28 сакавіка 1927 г. № 16, Народны Камісарыят Гандлю БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць для рэспубліканскіх каперацыйных аб‘яднаньняў гранічную набаўку на аконнае шкло, што прадаецца гуртам праз транзытны продаж, уключаючы набаўку кіраўніцтва „Продосиликата“,—1,75 проц. на продажную цану трэсту.

2. Для паўгуртовага гандлю з складаў рэспубліканскімі і акруговымі дзяржаўнымі і каперацыйнымі арганізацыямі ўстанавіць гранічную набаўку на цану трэсту 6 проц., уключаючы фактычны кошт тарыфу і гужавую дастаўку на склад.

3. Для дзяржаўнага і каперацыйнага дробнага гандлю ў акруговых гарадох устанавіць гранічную набаўку на цану трэсту, калі шкло прадаецца скрынкамі—11 проц., а калі аркушамі—16 проц., уключаючы фактычны кошт тарыфу і гужавую дастаўку на склад.

4. Для дзяржаўнага і дробнага гандлю іншых гарадоў, мястэчак і сельскіх мясцовасьцяй устанавіць гранічную набаўку на цану трэсту, калі шкло прадаецца скрынкамі (запакаванае)—17 проц., а калі аркушамі—23 проц., уключаючы фактычны кошт тарыфу і гужавую дастаўку на склад.

5. Гэтая пастанова ўваходзіць у сілу з 1 кастрычніка 1928 г.

6. Вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 202 Крым. Кодэксу БССР у рэдакцыі 1928 г.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР *М. Абрамсон.*

Сакратар Народнага Камісарыяту Гандлю БССР *К. Верамейчык.*

1 сьнежня 1928 г. № 7.

---

## 16. Пытаньні і адказы.

Запытаньне Азярышчанскай Раённай Зямельнай Камісіі Віцебскай акругі за 2 чэрвеня 1928 г. № 2497.

**Пытаньне 53.** У 1924 годзе некалькі грамадзян перасяліліся ў няплянавым парадку і да гэтага часу не вярнуліся. Зямлёю, што яны карысталіся, пачалі карыстацца іх суседзі на падставе прыгавару зямельнай грамады, засьведчанага сельскім саветам і раённым выканаўчым камітэтам, але не раённаю зямельнаю камісіяю. Ці можна цяпер лічыць памянёную зямлю запасным фондам?

**Адказ.** Зямельны Кодэкс БССР пашыраны на тэрыторыю Віцебшчыны з 1 красавіка 1925 г. Да паказанага-ж часу ў Віцебшчыне дзейнічаў Зямельны Кодэкс РСФСР.

Такім чынам разьмеркаваньне б. надзелаў перасяленцаў, зробленае грамадою на тэрыторыі Віцебшчыны да 1 красавіка 1925 г., лічыцца, паводле пункту „ж“ арт. 51 і арт. 62 Зям. Код. РСФСР, законным і тады, калі гэтае разьмеркаваньне ня было зацьверджана зямельнымі камісіямі. Значыцца ў паказаным выпадку нельга адабраць памянёную зямлю ад іх карыстальнікаў тым болей, калі разьмеркаваньне зроблена са згоды мясцовых зямельных органаў (сельскага савету і раённага выканаўчага камітэту).

Запытаньне Дубровенскай Раённай Зямельнай Камісіі за 19 чэрвеня 1928 г. № 2982.

**Пытаньне 54.** Жанчына атрымоўвае алімэнты ад члена двара на дзіця. Ці можна на падставе гэтага паводле заявы мацеры залічыць дзіця членам таго двара, у якім жыве асоба, што. плоціць алімэнты?

**Адказ.** Паводле ўвагі да арт. 62 Кодэксу законаў аб шлюбе, сям'і і апецы, маемасныя правы і абавязкі бацькоў і дзяцей у складзе сельскага двара ўстанаўляюцца адпаведнымі артыкуламі Зямельнага Кодэксу. Паводле-ж сэнсу арт. 64 Зям. Код. адзін факт выплаты членам двара сродкаў на ўтрыманьне дзіцяці не зьяўляюцца падставаю для залічэньня апошняга ў члены двара, дзе знаходзіцца асоба, што плоціць алімэнты. А таму нельга паводле заявы толькі мацяры бяз згоды бацькі залічыць у члены двара апошняга дзіця толькі з тае прычыны, што такому дзіцяці яго бацька плоціць алімэнты. Калі-ж на залічэньне згаджаецца бацька, то дзіця можа быць залічана ў члены яго двара і бяз згоды іншых паўнапраўных членаў двара.

Запытаньне Бярэзінскай Раённай Зямельнай Камісіі за 5 чэрвеня 1928 г., № 3418.

**Пытаньне 55.** У вёсцы арганізуецца сельска-гаспадарчая арцель. Яна хадайнічае аб выдзяленьні да аднаго месца зямлі, якою карыстаюцца яе члены. У арцель хоча, між іншым, увайсьці разам з сваёю сям'ёю адзін член двара, які ў зьвязку з гэтым падняў справу аб выдзяленьні яму ад супольнай гаспадаркі часткі зямлі і маемасьці ў натуры. Між тым, хаця гэтая гаспадарка можа дзяліцца, але частка зямлі, што належыць ісцу паводле закону, складае менш мінімальнай нормы. Ці можна ў такім выпадку зрабіць падзел гаспадаркі?

**Адказ.** Калі з зямельнай грамады выдзяляюцца двары для арганізацыі калякты́ўнай гаспадаркі на падставе пастановы Савету Народных Камісараў БССР за 5 чэрвеня 1928 г. (З. З. БССР 1928 г.. № 21, арт. 205), дык у адпаведнасьці з зямельнаю палітыкаю, накіраваную на

заахвочваньне каляктыўнага будаўніцтва і на стварэньне спрыяючых умоў для арганізацыі працоўным земляробскім насельніцтвам сельска-гаспадарчых каляктываў, выдзяленьне зямлі паасобным членам двара, якія ўваходзяць у склад сельска-гаспадарчага каляктыву і жадаюць далучыць да апошняга сваю частку зямлі, дазваляецца і тады, калі ім належыць менш мінімальнай нормы зямлі, з умоваю, што пры гэтым членам двара, якія астаюцца ў гаспадарцы, прыдзецца зямлі ня менш мінімальнай нормы.

Заявы памянёных членаў двара аб выдзяленьні ім з супольнай гаспадаркі часткі зямлі і аб далучэньні яе да каляктыву разглядаюцца не ў земельна-спрэчным парадку, а ў парадку земляўпарадкаваньня разам з справаю аб выдзяленьні зямлі для каляктыўнай гаспадаркі. Заявы гэтыя накіроўваюцца паводле арт. 167 Зям. Код. земляўпарадчыку, які праводзіць работы для выдзяленьня каляктыўнай гаспадаркі. Апошні вылічвае колькасьць зямлі, што паводле арт. 81 Зям. Код. прыпадае з двара на долю членаў яго, якія жадаюць ўвайсьці ў калектыў, далучае яе да агульнай плошчы, што выдзяляецца з грамады каляктыўнай гаспадарцы, і складае агульны праект выдзяленьня цэлых двароў, якія складаюць калектыў, а таксама і падзелу зямлі паасобных двароў, з якіх у склад калектыву ўваходзіць толькі частка членаў з сваёю часткаю зямлі, а потым справа разглядаецца ў агульным парадку земляўпарадчага працэсу.

Запытаньне Брагінскай Раённай Зямельнай Камісіі за 9 чэрвеня 1928 г. № 371/609.

**Пытаньне 56.** Ці мае права двор, які атрымаў пры земляўпарадкаваньні зямлю на пасёлку, здаць яе ў арэнду і на які тэрмін тады, калі ён спыняе вядзеньне сельскай гаспадаркі на пасёлку і ўваходзіць у сельска-гаспадарчую арцель?

**Адказ.** Здаваць зямлю ў арэнду могуць толькі часова аслабленыя працоўныя земляробскія гаспадаркі. Паводле сэнсу арт. 27 Зям. Код. пераход двора ў склад сельска-гаспадарчага калектыву не зьяўляецца падставаю для здачы ім зямлі ў арэнду. З гэтай прычыны двор, які ў сувязі з уваходам у члены сельска-гаспадарчага калектыву, сьпыніў вядзеньне сельскай гаспадаркі на зямлі, атрыманай ім пры земляўпарадкаваньні ў пасёлку, ня мае права здаць гэтую зямлю ў арэнду, а яна, як агульнае правіла, павінна быць залічана ў запасны фонд.

Запытаньне Віцебскай Раённай Зямельнай Камісіі за 7 чэрвеня 1928 г. № 3639:

**Пытаньне 57.** У сувязі з тым, што наш раён зьяўляецца прыгарадным, бываюць такія зьявішчы, калі член сялянскага двара адсутнічае з гаспадаркі на працоўных заработках на працягу 3-х, 4-х або 5 гадоў і ўвесь гэты час не дапамагае гаспадарцы ні сваёю працаю, ні сродкамі, а потым пасьля зыходу 2-х севазваротнага тэрміну паднімае справу аб прысуджэньні яму ад двара выплаты паводле арт. 84 Зям. Код. Ці павінен задавольвацца такі іск?

**Адказ.** Паводле дакладнага сэнсу арт. арт. 16 і 73 Зям. Код. член двара, які пашоў на працоўныя заработкі, да зыходу 2-х севазваротнага тэрміну захоўвае за сабою права членства ў двары і тады, калі ён увесь гэты час ня ўдзельнічаў ні сваёю працаю, ні сродкамі ў вядзеньні супольнай гаспадаркі двара. Дзеля гэтага іск члена двара, які адсутнічаў з гаспадаркі на працоўных заработках менш 2-х севазваротаў

(хаця-б і 5 гадоў), аб прысуджэньні яму выплаты паводле арт. 84 Зям. Код. павінен задавольвацца і тады, калі ён увесь час ня ўдзельнічаў ні сваёю працаю, ні сродкамі ў вядзеньні супольнай гаспадаркі двара. Пры вызначэньні-ж паводле арт. 84 Зям. Код. разьмеру выплаты такому члену двара трэба, між іншым, кіравацца растлумачэньнем Пленуму АКВК за 11 чэрвеня 1928 г. (пункт 12 журн. № 37 пленарнага пасяджэньня АКВК), гэта значыць браць пад увагу ўдзел яго працаю і сродкамі ў гаспадарцы.

Калі-ж член двара да адыходу на працоўныя заработкі мала працаваў у гаспадарцы, за яе кошт вучыўся, выбраў усю сваю частку маемасьці з двара і, апроч таго, мая цяпер самастойны заработак, дык зямельныя камісіі могуць, у адпаведнасьці з канкрэтнымі акалічнасьцямі справы, адмовіць яму ў іску аб выплаце.

Запытаньне Віцебскай, Азарыцкай і Высачанскай раённых зямельных камісій.

**Пытаньне 58.** Член двара бяз усякіх падстаў да падзелу, а толькі таму, што хоча пакінуць гаспадарку і пайсьці ў горад, падняў справу аб прысуджэньні яму паводле арт. 84 Зям. Код. выплаты ад гаспадаркі.

Бываюць яшчэ такія зьявішчы, калі член двара адмаўляецца ад зямлі ў складзе двара і паднімае справу аб выплаце паводле арт. 84 Зям. Код., каб атрымаць з запаснага фонду зямлю для паасобнага карыстаньня. Ці павінны задавольвацца такія іскі?

**Адказ.** Калі з двара выходзіць член яго паводле арт. 84 Зям. Код. дык такі двор ня дзеліцца, а член двара, што выходзіць з яго, атрымоўвае толькі выплату за частку маемасьці, якая належыць яму паводле закону. Пастановаю Савету Народных Камісараў БССР пра прыпыненьне падзелаў сялянскіх гаспадарак за 10 красавіка 1925 г. забаронены толькі падзелы сялянскіх гаспадарак, але ня выхад члена двара з гаспадаркі паводле арт. 84 Зям. Код. Такім чынам нельга вымагаць, каб для выхаду паводле арт. 84 Зям. Код. з двара члена яго быў выключны выпадак, прадугледжаны ўвагаю да пункту 1 памянёнай пастановы СНК за 10 красавіка 1925 г. І наогул чыннае заканадаўства ня ведае прымусовага членства ў сялянскім двары. Дзеля гэтага член двара, які хоча выйсьці са складу апошняга і паехаць у горад на заработкі, мае права атрымаць з супольнай гаспадаркі выплату паводле арт. 84 Зям. Код.

Калі-ж іск аб выплаце паводле арт. 84 Зям. Код. зьяўляецца фіктыўным і паднят для таго, каб абыйсьці чыннае заканадаўства (напрыклад, каб атрымаць зямлю з запаснага фонду для асобнага карыстаньня, ухіліцца ад выплаты аліментаў, або атрымаць ільготу па вайсковай павіннасьці і г. д.), дык зямельныя камісіі павінны ў такім іску адмовіць.

Запытаньне Голацкага Сельскага Савету Сьмілаўскага раёну за 9 верасьня 1928 г. № 1133.

**Пытаньне 59.** Часта ў пастанове зямельнай камісіі па справе аб падзеле гаспадаркі дакладна ня вызначаны паласы і кавалкі зямлі, якія павінны быць выдзялены ісцу, а паказана толькі агульная колькасьць зямлі ва ўсіх ужытках, якую яму трэба даць для карыстаньня. Ці можа сельскі савет, выконваючы такую пастанову, сам вызначыць ісцу сядзібу, ральлю і сенажаць кавалкамі, або ён мусіць выдзяліць ісцу зямлю ва ўсіх ужытках толькі ўдоўж палос, ня гледзячы на тое, што гэтым ствараецца вузкапалосьсе?

**Адказ**. Зьнішчэньне недахопаў землякарыстаньня, а не стварэньне іх зьяўляецца задачаю зямельнай палітыкі. Значыць, выконваючы пастанову зямельнай камісіі па справе аб падзеле гаспадаркі, калі ў пастанове дакладна ня вызначаны вучасткі, прысуджаныя ісцу, а паказана толькі агульная іх колькасьць ва ўсіх ужытках, сельскі савет, каб не ствараць вузкапалосься і зьнішчаць іншыя недахопы землякарыстаньня, можа з захаваньнем законных інтарэсаў удзельнікаў спрэчкі і патрабаваньняў гаспадарчай мэтазгоднасьці вызначыць ісцу зямлю і паасобнымі кавалкамі. Спрэчкі, якія ўзьнікаюць на грунце гэтага, павінны выпрашацца зямельнымі камісіямі ва ўстаноўленым для гэтага парадку.

Запытаньне Жлобінскага Раённага Выканаўчага Камітэту за 3 жніўня 1928 г. № 6814.

**Пытаньне 60**. Ці могуць зямельныя органы паводле чыннага заканадаўства браць арэндную плату за зямельныя вучасткі ў сельскіх мясцовасьцях, якія аддаюцца ўстановам, арганізацыям або прыватным асобам паводле дагавору аб праве забудоўкі?

**Адказ.** Паводле арт. 76 Гр. Код. у рэдакцыі пастановы ЦВК і СНК БССР за 26 красавіка 1928 г. (З. З. БССР 1928 г., № 16, арт 137), уключэньне ў дагавор аб праве забудоўкі пункту пра спагнаньне з забудоўшчыка арэнднай платы за зямлю, што аддаецца яму пад забудоўку, не зьяўляецца абавязковым.

Арт. 16 палажэньня пра спагнаньне рэнты з гарадзкіх зямель (З. З. СССР 1927 г., № 22, арт. 245) і арт. 2 правіл спагнаньня рэнты з гарадзкіх зямель (З. З. СССР 1927 г., № 48, арт. 494) аб звальненьні забудоўшчыкаў ад арэнднай платы за землі, што аддаюцца ім пад забудоўку, тычыцца толькі гарадзкіх зямель, але не зямель у сельскіх мясцовасьцях.

Такім чынам зямельныя органы не абавязаны, але могуць са згоды забудоўшчыка ўключыць у дагавор аб праве забудоўкі пункт пра спагнаньне з забудоўшчыка пэўнай арэнднай платы за зямлю, якая яму аддаецца пад забудоўку ў сельскай мясьцовасьці.

**61.** Прапанова Народнага Камісара Земляробства пра перагляд Пленумам Асобнай Калегіі яе тлумачэньня за 6 ліпеня 1926 г. (п. 1 ж.10) адносна праўнага становішча падлесных плошчаў, якія самавольна расчышчаны і захоплены насельніцтвам.

**Адказ.** Праўнае становішча плошчаў, якія самавольна расчышчаны і ўзвораны насельніцтвам у лясных дачах, залежыць ад часу захопу. Калі расчыстка і ўзворваньне падлеснай плошчы зроблены ў працэсе аграрнай рэвалюцыі 1917-18 г., ці раней яе, і з таго часу зямля гэтая знаходзіцца ў сельскагаспадарчым карыстаньні насельніцтва, дык яна на грунце пастаноў Зьездаў Саветаў і арт. 124 Зям. Код. уваходзіць у склад зямель працоўнага карыстаньня. Падлесныя-ж плошчы, захопленыя насельніцтвам ужо тады, калі былыя непрацоўныя землі пачалі разьмяркоўвацца зямельнымі ўстановамі арганізаваным парадкам, які час для розных акруг будзе неаднакавым, але не пазьней 1 студзеня 1922 г., уваходзяць у склад ляснога фонду і, на падставе пастановы ЦВК і СНК БССР за 24 кастрычніка 1922 г. пра ворныя і сенакосныя вучасткі ў лясных дачах (З. З. БССР—1922 г. № 13, арт. 171), пакідаюцца на дагаворных падставах іх ранейшым карыстальнікам аж да лесаўпарадкаваньня. Нарэшце, захопы падлесных плошчаў пасьля 1/I—1922 г. прызнаюцца парушэньнем правілаў вядзеньня лясной гаспадаркі і не

мяняюць праўнага становішча гэтых плошчаў, апроч выпадкаў, калі па кожнай асобнай справе падлесная зямля была да гэтага часу перададзена ў працоўнае карыстаньне земляробскіх гаспадарак пастановамі зямельных камісій. Вынікі-ж захопаў цэлымі вёскамі, ці групамі двароў падлесных плошчаў, якія не перададзены ім належным парадкам у працоўнае карыстаньне, але абжыты імі і знаходзяцца ў іх карыстаньні без дагавораў з лясьніцтвам, вырашаюцца праз земляўпарадкаваньне.

Запытаньне Мсьціслаўскага Раённага Выканаўчага Камітэту.

**Пытаньне 62.** У судовым ці адміністрацыйным парадку павінна спаганяцца плата за прададзеныя дрэвы пры перадачы саду ў працоўнае карыстаньне, плата за прададзеныя будынкі дзяржаўнай зямельнай маемасьці, а таксама за будынкі, адданыя ў арэнду, і арэндная плата за сады паводле дагавораў, якімі прадугледжана скасаваньне іх у судовым парадку, калі арандатарам будуць парушаны ўмовы дагавору, а таксама калі ён не своечасова плаціць арэнду?

**Адказ.** Сады ў працоўнае карыстаньне перадаюцца паводле пастаноў Савету Народных Камісараў БССР за 22/III—1928 г. і 23/IV—1928 г. бясплатна (З.З. БССР 1928 г., №№ 13 і 16, арт. арт. 110 і 146). Калі-ж сад перададзены раней выданьня гэтых пастаноў у працоўнае карыстаньне грамадзян з продажам ім дрэў, то няўнесеная ў тэрмін плата павінна спаганяцца ў бясспрэчным адміністрацыйным парадку паводле артыкулу 13 абежніку Народнага Камісарыяту Земляробства за 12/IV 1926 году № 8888 (Бюлетэнь СНК БССР за 1926 г. № 9, стар. 30). У такім самым парадку спаганяецца плата за адданыя паводле дагавораў у арэнду будынкі і сады дзяржаўнай зямельнай маемасьці, на падставе арт. 22 выданых 29/VIII—24 г. ЦВК і СНК БССР правілаў скарыстаньня гэтай маемасьці (З. З. БССР 1925 г., № 1, арт. 6). Няўнесеныя-ж у тэрмін грошы за прададзеныя і перададзеныя купцу будынкі спаганяюцца з яго ў судовым парадку, бо бясспрэчны адміністрацыйны парадак спагнаньня такой платы ня вызначан у законе.

**Пытаньне 63.** Якім судом вырашаюцца справы пра спагнаньне платы за прададзеныя будынкі дзяржаўнай зямельнай маемасьці, калі па справе няма спрэчкі пра карыстаньне зямлёю?

**Адказ.** Няўнесеная ў тэрмін плата за прададзеныя купцу будынкі дзяржаўнай зямельнай маемасьці спаганяецца праз агульны суд, бо зямельным камісіям, паводле п. п. „в“ і „г“ арт. 199 і п. „б“ арт. 200 Зям. Код. у рэдакцыі пастановы ЦВК і СНК БССР за 17/V—1928 г., падсудны толькі справы пра дзяржаўную зямельную маемасьць, пра скасаваньне дагавораў на гэтую маемасьць і пра страты, іск аб якіх разглядаецца разам з названымі спрэчкамі.

**Пытаньне 64.** Ці можна адабраць сад ад асобы, якая атрымала яго ў працоўнае карыстаньне і абавязалася купіць дрэвы, але ня ўнесла за іх у тэрмін грошай, і перадаць гэты сад другой асобе?

**Адказ.** Адабраць зямлю ад працоўнага карыстаньня можна толькі на падставах, паказаных у Зямельным Кодэксе. У лік гэтых падстаў не ўваходзіць нядоімачнасьць землякарыстальніка. Таму няплата ім грошай за купленыя фруктовыя дрэвы на зямлі, якая дадзена яму для працоўнага карыстаньня, выклікае не адабраньне ад яго саду, а толькі спагнаньне нядоімкі.

**Пытаньне 65.** Ці трэба пры перадачы ў працоўнае карыстаньне саду, які ўваходзіць у склад дзяржаўнай зямельнай маемасьці, скла-

даць праекты спрошчанага земляўпарадкаваньня, ці для гэтага даволі адміністрацыйнай пастановы раённага выканаўчага камітэту?

**Адказ.** Сады, якія ўваходзяць у склад дзяржаўнай зямельнай маемасьці, перадаюцца ў працоўнае карыстаньне паасобнай гаспадарркі асобнаю камісіяю паводле арт. 8 абежніку Народнага Камісарыяту Земляробства за 12/IV—1926 г. № 8888 (Бюлетэнь СНКБССР 1926 г., № 9, стар. 30). Гэтая камісія складаецца з раённага агранома і прадстаўнікоў фінансавага органу і раённага выканаўчага камітэту. Калі-ж разам з садам разьмяркоўваюцца і зямельныя вучасткі, дык гэтае разьмеркаваньне сярод калялктываў і двароў робіцца ў парадку земляўпарадкаваньня, прычым нязначныя плошчы, на якіх немагчыма ўтварыць пяць самастойных гаспадарак, перадаюцца ў працоўнае карыстаньне сельскімі саветамі. Апошнія складаюць спрошчаныя земляўпарадчыя праекты бяз тэхнічных вымераў і пляпаў.

**Пытаньне 66.** Што трэба рабіць у тым выпадку, калі сад плошчаю да 2 гэктараў павінен быць перададзены асобе, якая мае максымальную норму зямлі.

**Адказ.** Калі сад плошчаю да 2 гэктараў не перададзен са складу дзяржаўнай зямельнай маемасьці для працоўнага карыстаньня ў парадку, вызначаным абежнікам Народнага Камісарыяту Земляробства БССР за 12/IV—1926 г. № 8888 (Бюлетэнь СНК БССР 1926 г., № 9, стар. 30), дык на падставе пастановы Савету Народных Камісараў БССР за 22/III—1928 г. (З. З. БССР 1928 г., № 13, арт. 110) гэты сад павінен быць перададзены для працоўнага карыстаньня сельскагаспадарчаму калектыву, альбо паасобнай гаспадарцы інваліда грамадзянскай вайны, героя працы, был. чырвонага партызана ці чырвонагвардзейца. Калі-ж пералічаных гаспадарак на месцы няма, альбо калі паасобныя гаспадаркі з ліку названых забясьпечаны максымальнаю нормаю зямлі, дык сад перадаецца бядняцкім гаспадаркам.

Запытаньне Гомельскай Акруговай Зямельнай Камісіі.

**Пытаньне 67.** Земляўпарадчая справа разгледжана па падсуднасьці ў якасьці першай інстанцыі раённаю зямельнаю камісіяю. Паводле скаргаў тая самая справа вырашана потым акруговаю зямельнаю камісіяю. Пастанова яе і пастанова раённай зямельнай камісіі зкасаваны ў парадку нагляду Асобнаю Калегіяю Вышэйшага Кантролю, якая перадала справу на новы разгляд у акруговую зямельную камісію. Ці ў парадку нагляду, ці ў касацыйным парадку павінна абскарджвацца новая пастанова па справе акруговай зямельнай камісіі?

**Адказ.** Калі Асобная Калегія Вышэйшага Кантролю скасуе ў парадку нагляду пастановы па справе раённай і акруговай зямельных камісій і верне справу для новага разгляду ў акруговую зямельную камісію, дык яе новая пастанова лічыцца канчатковаю. Яна можа быць абскарджана ў Асобную Калегію толькі ў парадку нагляду, бо справа гэтая ў якасьці першай інстанцыі была ўжо разгледжана раённаю зямельнаю камісіяю, акруговая-ж камісія вырашыла яе па прапанове Асобнай Калегіі ў якасьці другой інстанцыі. Падсуднасьць справы і парадак яе разгляду вызначаны арт. арт. 199 і 200 Зям. Код. і ня могуць быць зьменены пастановаю Асобнай Калегіі. Тая акалічнасьць, што пастанова раённай зямельнай камісіі скасавана ў парадку нагляду Асобнаю Калегіяю Вышэйшага Кантролю не ўтварае з акруговай зямельнай камісіі першай інстанцыі для разгледжанай справы, а толькі пазбаўляе названую камісію магчымасьці пакінуць без задаволеньня скаргу на пастанову раённай зямельнай камісіі.

**Пытаньне 68.** На падставе пастановы ЦВК і СНК БССР за 17-V—1928 г. у склад зямельных камісій уключаюцца спэцыялісты, у тым ліку і аграном. Па якіх справах зьяўляецца канечна патрэбным яго удзел у пасяджэньнях зямельнай камісіі?

**Адказ.** Кожны член зямельнай камісіі мае права ўдзельнічаць у разглядзе ўсіх падсудных ёй спраў. Запрашэньне-ж таго ці іншага спэцыяліста ў склад зямельнай камісіі залежыць і ад характару спраў, якія разглядаюцца ў даным пасяджэньні, і ад магчымасьці для члена камісіі ўзяць удзел у гэтым пасяджэньні. Удзел агранома ў пасяджэньні зямельнай камісіі пажаданы, галоўным чынам, пры разглядзе землеўпарадчых спраў паводле скаргаў на параўнаўчую расцэнку зямлі, на выбар форм землякарыстаньня і на праекты гаспадарчага ўпарадкаваньня, бо паводле інструкцыі Народнага Камісарыяту Земляробства за 7-V—1924 г. аграном мае, галоўным чынам, удзел у гэтых галінах земляўпарпдкаваньня.

Запытаньне Заслаўскай Раённай Зямельнай Камісіі.

**Пытаньне 69.** Як трэба прысуджаць ардынарыю—грашмі, ці натураю на кожны год да сьмерці ісца і па якой норме?

**Адказ.** Ардынарыя непрацаздольным членам двара—малалетнім, інвалідам і старым—можа прысуджацца і грашмі і натураю у зьвязку з нясталасьцю цэн на харчы. Калі прысуджанай у натуры ардынарыі ня будзе ў наяўнасьці, дык бяруцца грошы па кошту ардынары на дзень яе спагнаньня. Норма ардынарыі вызначаецца заможнасьцю двара і сапраўднаю колькасьцю харчоў, патрэбных для ўтрыманьня ісца. Тэрмін прысуджэньня ардынарыі для малалетніх не павінен перавышаць дасягненьня імі паўналецьця. Старым-жа непрацаздольным членам двара ардынарыя прысуджаецца звычайна да іх сьмерці.

**Пытаньне 70.** Ці мае права зямельная камісія адмовіць члену двара ў іску аб выплаце, які падаецца на падставе арт. 84 Зям. Код., а калі мае гэтае права, то пры якіх абставінах?

**Адказ.** Выплаты члену двара даюцца замест падзелу апошняга. Таму не карыстаюцца правам на атрыманьне выплат члены, якія паводле арт. 73 Зям. Код. ня могуць патрабаваць падзелу двара. Разам з тым паводле арт. 84 таго-ж Код. разьмер выплат вызначаецца часткаю маемасьці, якая належыць члену двара і не перавышае трэцяй часткі яго гаспадарчага абсталяваньня. Пры вылічэньні гэтай часткі бярэцца пад увагу ўдзел ісца працаю альбо сродкамі ў вядзеньні супольнай гаспадаркі. Таму ў іску аб выплатах зямельная камісія можа адмовіць, калі гэты іск падаецца членам, які ня мае права патрабаваць падзелу двара, альбо членам, які па малалецтву, напрыклад, мала працаваў у гаспадарцы, за яе кошт вучыўся, выбраў, такім чынам, усю сваю частку маемасьці двара і мае цяпер самастойны заработак.

**Пытаньне 71.** Ці мае права земляўпарадчык пры ўнутрывясковым земляўпарадкаваньні выселіць з вёскі двор без яго згоды, калі немагчыма ўпарадкаваць усю вёску на месцы?

**Адказ.** Унутрывясковае земляўпарадкаваньне праводзіцца не на падставе згоды кожнага ў паасобку двара, а на падставе абавязковай для ўсіх двароў зямельнай грамады законнай пастановы яе сходу. Таму пры ўнутрывясковым земляўпарадкаваньні для высяленьня двара

з вёскі не патрэбна яго згода. Пры складаньні-ж сьпісу двароў, якія павінны выселіцца з вёскі, земляўпарадчык найперш бярэ пад увагу пажаданьні насельніцтва і без парушэньня правілаў земляўпарадкаваньня вядзе работу так, каб ня было спрэчак і скарг. Калі немагчыма дайсьці да згоды і пакінуць на месцы ўсе двары, дык сьпіс высяленцаў з захаваньнем гаспадарча-тэхнічных правілаў земляўпарадкаваньня і клясавай лініі складаецца земляўпарадчыкам з удзелам прадстаўніка раённага выканаўчага камітэту, сельскага савету, камітэту ўзаемадапамогі і ўпаўнаважаных грамады. Пры складаньні сьпісу, а таксама і ў земляўпарадчым праекце паказваецца дапамога, калі высяленцам яна даецца зямельнаю грамадою, ці паасобнымі яе членамі.

Запытаньне Аддзелу Земляўпарадкаваньня і Мэліарацыі НКЗ.

**Пытаньне 72.** Якое праўнае становішча надзелаў сельскагаспадарчага калектыву пры яго ліквідацыі, калі калектыў быў утворан на мяшаных разам землях запаснага фонду і працоўнага карыстаньня?

**Адказ.** Землі, вызначаныя для сельскагаспадарчага калектыву, спэцыяльна прызначаны для вядзеньня на іх толькі калектыўнай гаспадаркі. Таму пры ліквідацыі сельскагаспадарчай камуны ці арцелі зямля іх, на падставе тыповага статуту і арт. 106 Зям. Код., ня можа быць разьмяркована сярод іх членаў і тады, калі надзел камуны ці арцелі складаўся з зямель працоўнага карыстаньня і дзяржаўнай зямельнай маемасьці. Члены ліквідаванага сельскагаспадарчага калектыву, якія ня ўвойдуць у склад новага калектыву, атрымоўваюць надзел з запаснага фонду.

**73.** Прапанова Пракурора Рэспублікі пра растлумачэньне зямельным камісіям недапусьцімасьці накіроўваць справы ў народны суд для спагнаньня зробленай платы членаў двара, якім зямельная камісія адмовіла ў іску аб выдзеле часткі маемасьці.

**Адказ.** Сялянскі двор складае сямейна-працоўнае аб'яднаньне асоб, якія разам вядуць сельскую гаспадарку. Таму кожны член двара зьяўляецца ў ім не нанятым рабочым, а сукарыстальнікам супольнай маемасьці, якая належыць двару ў цэлым. Выходзячы з складу двара, яго член мае права атрымаць выплату грашмі ці натураю за сваю частку супольнай маемасьці і ня можа спаганяць плату за работу ў двары, бо адносіны яго да двара ня грунтуюцца на працоўным дагаворы.

Запытаньне Пухавіцкай Раённай Зямельнай Камісіі.

**Пытаньне 74.** Як выконваецца зацьверджаны зямельнаю камісіяю земляўпарадчы праект, якім прадугледжан абавязак адных удзельнікаў земляўпарадкаваньня даць дапамогу другім, калі абавязаныя асобы ня выконваюць дабравольна праекту аб дачы дапамогі?

**Адказ.** Калі двары, якія зацьверджаным у належным парадку земляўпарадчым праектам абавязаны даць дапамогу другім дваром, ня выконваюць дабравольна свайго абавязку, дык земляўпарадчы праект у належнай частцы на падставе выпіскі з яго і пастановы зямельнай камісіі выконваецца ў прымусовым парадку, як і ўсякая судовая пастанова. У паасобку, калі прадугледжаная праектам дапамога не ацэнена на грошы, дык паказаныя ў праекце дзеяньні выконваюцца за кошт тых асоб, якія наперакор праекту не давалі дапамогі ўдзельнікам земляўпарадкаваньня.

Запытаньне Узьдзенскага Раённага Выканаўчага Камітэту.

**Пытаньне 75.** Ці могуць быць уключаны ў склад двара і атрымаць зямлю пры земляўпарадкаваньні жонка і дзеці члена двара, які ажаніўся ў горадзе ў час адсутнічаньня з гаспадаркі, калі гэты член двара знаходзіцца на службе, але яшчэ ня страціў права членства ў двары, а сям'я яго ніколі не працавала на гаспадарцы і нават ня была на ёй?

**Адказ.** Калі часоваадсутны член двара абзавядзецца на старане сям'ёю і не запіша яе ў склад двара, прычым сям'я гэтага члена ў гаспадарцы яго ня будзе ўдзельнічаць ні працаю, ні сродкамі, дык яна ня можа быць пры земляўпарадкаваньні залічана ў склад гаспадаркі адсутнага члена для павялічэньня вызначанай двару нормы зямлі, бо двор на падставе арт. 63 Зям. Код. складае сабою сямейна-працоўнае аб'яднаньне асоб, якія супольна вядуць сельскую гаспадарку.

Адказы на пытаньні 53—75 дае Асобная Калегія Вышэйшага Кантролю па Зямельных справах пры НКЗ БССР (Журнал пленарнага пасяджэньня АКВК за 29-30 кастрычніка і 1 лістапада 1928 г. № 40).

Адказны Рэдактар **І. Фрыдман.**

# ЗЬМЕСТ

Стар.

1. Палажэньне, выдадзенае Эканамічнаю Нарадаю пры СНК БССР, пра фонд грамадзкага харчаваньня пры рабочай сэкцыі спажывецкай капярацыі БССР „Белрабсэкцыі" . . . . . . . . . . . 3
2. Палажэньне, выдадзенае Эканамічнаю Нарадаю пры СНК БССР, аб асобным Упаўнаважаным Эканамічнай Нарады пры СНК БССР для загатовак дроў . 4
3. Абежны Н. К. Фінансаў і Н. К. Унутраных Спраў БССР пра вызваленьне ад гэрбавага збору дакумэнтаў аб дазволе рэлігійных працэсіяў . . . 6
4. Інструкцыя Н. К. Унутраных Спраў БССР пра парадак выдачы пасьведчаньняў асобы . . . . . . . . .
5. Абежны ліст Н. К. Унутраных Спраў БССР пра плянавое ўцягненьне і скармстоўваньне грамадзкасьці ў практычнай рабоце міліцыі. . . . 14
6. Абежнік Н. К. Унутраных Спраў і Н. К. Юстыцыі БССР пра парадак зьмены імя непаўналетнім дзецям . . . . . . . . 15
7. Абежны Н. К. Унутраных Спраў і Н. К. Юстыцыі БССР пра ўзмацненьне змаганьня з хуліганствам на лініях чыгунак . . . . . —
8. Абежнік Н. К. Унутраных Спраў БССР пра парадак наклейваньня гэрбавых марак пры выдачы актавых пасьведчаньняў на падставе вусных заяў . 16
9. Інструкцыя Н. К. Земляробства БССР пра парадак арганізацыі і дзейнасьці пасялковых вытворча-капэрацыйных таварыстваў . . . . 17
10. Пастанова Н. К. Працы БССР пра ўвядзеньне ў сілу на тэрыторыі БССР абавязковай пастановы Н.К.П. СССР за 3-IX—1928 г. № 506 „Правила безопасности по устройству и содержанию трамвайных вагонов" . . 20
11. Пастанова Н. К. Працы БССР пра ўвядзеньне ў сілу на тэрыторыі БССР абавязковай пастановы Н. К. П. СССР за 20-IX—1928 г. № 550 „Правила устройства и содержания мелких (с числом рабочих не свыше 10 человек) и кустарных кожевенных предприятий и складов кожевенного сырья" . . —
12. Абежнік Н. К. Асьветы БССР пра прапрацоўку пастаноў VI Кангрэсу Камінтэрну —
13. Пастанова Н. К. Гандлю БССР пра ўстанаўленьне дадатковых загатоўчых цэн на ільняное валакно на сэзон 1928-29 г. . . . . . . 21
14. Пастанова Н. К. Гандлю БССР пра вызваленьне ад абавязковай па-забіржавой рэгістрацыі паводле пастановы СПА за 30 сьнежня 1927 г. дагавораў камісіі, складзеных дзяржаўнымі прадпрыемствамі і капэрацыйнымі арганізацыямі з імпартнымі арганізацыямі на куплю апошнімі заранiцаю рэчаў абсталяваньня і сырцу . . . . . . . . . . . 22
15. Настанова Н.К. Гандлю БССР пра гранічныя набаўкі на аконнае шкло, якое прадаецца гуртам, паўгуртам ў раздроб дзяржаўнымі і капэрацыйнымі арганізацыямі . . . . . . . . . . . —
16. Пытаньні і адказы №№ 53-75 (па журналу Асобнай Калегіі Вышэйшага Кантролю па Зямельных Справах пры НКЗ БССР за 29-30 кастрычніка і 1 лістапада 1928 г. № 40). . . . . . . . . . 23

## АБПАДПІСЦЫ НА 1929 ГОД

## на ЗБОР ЗАКОНАЎ ЗАГАДАЎ РАБОЧА-СЯЛЯНСКАГА ЎРАДУ БССР і на БЮЛЕТЭНЬ СНК БССР.

Збор Законаў і Загадаў Рабоча-Сялянскага Ўраду БССР (Адзел І і ІІ) і Бюлетэнь СНК БССР у 1929 г. будуць высылацца бясплатна ўсім установам, што знаходзяцца на дзяржаўным бюджэце, паводле сьпісаў, даных Народнымі Камісарыятамі і Цэнтральнымі Ўстановамі БССР. Усе іншыя ўстановы, а таксама прыватныя асобы, якія хочуць атрымоўваць гэтыя выданьні, павінны на іх падпісацца і ўнесьці грошы.

Падпіска прымаецца толькі на год (з 1 студзеня) і на паўгода (з 1 студзеня або з 1 ліпеня). Ні на якія другія тэрміны (на месяц, два, тры і г. д.) падпіска прымацца ня будзе.

**ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:**

| | | |
|---|---|---|
| Збор Законаў і Загадаў БССР (Аддзел І) | на год . . | 10 р. — к. |
| | на паўгода | 5 р. — к. |
| Збор Законаў і Загадаў БССР (Аддзел ІІ) | на год . . | 1 р. 50 к. |
| | на паўгода | — 75 к. |
| Бюлетэнь СНК БССР . . . | на год . . | 5 р. — к. |
| | на паўгода | 2 р. 50 к. |
| Альфабэтна-прадметныя паказчыкі да Збору Законаў і Загадаў БССР і Бюлетэню СНК БССР па | . . | 75 к. |

Падпісная плата за межы павялічваецца ў два разы.

Установам для прыманьня падпіскі даецца скідка з падпіснае платы ў 10%, прычым грошы павінны ўносіцца пры здачы заказаў.

Установы гор. МЕНСКУ павінны здаваць падпіску непасрэдна, падпіска ад іх праз органы падпіскі прымацца ня будзе.

**Падпіску і грошы накіроўваць:**

Інфармацыйнаму Аддзелу Кіраўніцтва Спраў СНК і ЭН БССР, **гор. Менск, Пляц Волі, № 17.**

Заг. Інфармацыйнага Аддзелу Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады БССР *І. Фрыдман.*

